# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 37 10 верасня 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

(2283) Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.).

## БЕЛАРУСЬ АДРОДЗІЦЦА





Першага верасня ў Мінску адбылося гарадское свята паэзіі «Песняй вітаю я вас», прысвечанае юбілею Якуба Коласа і Дню ведаў. Адбылося свята... Не ўскалыхнула, не запаліла, не прынесла радасці, а адбылося. У дзяцей, дзеля якіх, уласна, мерапрыемства ладзілася, яно не выклікала ніякіх пачуццяў: пастаялі, пасвавolілі, пасмяяліся. У дарослых выклікала прыкрасць, незадаволенасць: арганізатары пайшлі пратаптанай сцежкай, свята арганізавалі спехам, без фантазіі, не знайшлі, чым зацікавіць дзяцей, і малыя не адчулі, што Якуб Колас быў і застаецца прарокам у сваёй Айчыне, што родная мова была для яго самай галоўнай мовай у свеце і такой яна павінна быць для кожнага беларуса.

Змоўк, сціх натоўп перад Канцэртнай залай на плошчы Якуба Коласа, калі да мікрафона падышоў Сяргей Грахоўскі, бо яго слова было звернута непасрэдна да кожнага юнага мінчаніна, прабівалася да яго свядомасці і, спадзяюся, усхвалявала многіх. «Беларуская мова, — сказаў паэт, — ключ да разумення многіх славянскіх моў, ключ да новых ведаў. А чым чалавек больш ведае, тым ён багацейшы». Бадай, няма на зямлі больш такога народа, які выракаўся б сваёй мовы, як гэта сталася сёння з беларусамі. Не забываць пра свае вытокі, пра сваю зямлю, якая дала нам жыццё, «Беларусь адродзіцца!» — упэўнена і горача заклікаў прамоўца.

Сёння модна наракаць, што «нам забаранялі, нам не дазвалялі, нас душылі». Здаецца, зняты ўсе забароны на праяўленне нацыянальных пачуццяў, на роднае слова і вольную думку. Чаму ж мы ўсё роўна нібы стрыножаныя! Ці не ўласная абыякавасць перашкаджае беларусам адрадзіцца як паўнацэннай нацыі!

Д. ЧАРАПОВІЧ.

НА ЗДЫМКАХ: на плошчы Якуба Коласа ў Мінску 1 верасня 1992 года.

## ПРА АЎТАРА ГІМНА «МЫ ВЫЙДЗЕМ ШЧЫЛЬНЫМІ РАДАМІ»

# ДУХМЯНЫ ЧАЙ МАКАРА КРАЎЦОВА

У чэрвені мінулага года споўнілася сто год з дня нараджэння паэта-нашаніўца, пісьменніка, перакладчыка Макара Касцевіча. Свае творы ён падпісваў псеўданімам Макар Краўцоў. Краўцовымі аднавяскоўцы называлі яго бацькоў, таму што іх прадзед некалі быў краўцом, шыў сялянам кажухі. Нарадзіўся ён у вёсцы Баброўня над рэчкай Котрай, што на Скідальшчыне, у даволі заможнай сям'і Мацвея Касцевіча. Пражыў крыху больш сарака дзевяці гадоў. На яго долю лёс выпаў цяжкі, можна сказаць, трагічны. Як кажуць у народзе: ён не жыў на гэтым свеце, а толькі пакутаваў. Быў забыты Богам і людзьмі. Пасля яго трагічнай смерці ў засценках Беластоцкай турмы ў 1940 годзе не толькі родзічы баяліся называць яго імя, блізкія, але і сучасныя літаратуразнаўцы абміналі гэтага паэта, пісьменніка. Толькі Уладзімір Калеснік у сваёй кнізе «Час і песні» адважыўся ўспомніць Макара Краўцова, але даў неадпаведную характарыстыку яго творчасці і палітычнай дзейнасці. Асноўнай прычынай такіх адносін да Макара Краўцова было тое, што ён сярод падпольшчыкаў-рэвалюцыянераў лічыўся балахоўцам, «ворагам народа».

Як вядома, 24-га і 25-га сакавіка 1918 года Беларуская Народная Рэспубліка была абвешчана незалежнай дзяржавай. Незалежнасць Беларусі была прызнана Украінай, Чэхаславакіяй, Літвой, Эстоніяй, Арменіяй, Грузіяй. Урад БНР завязаў дыпламатычныя і гандлёвыя сувязі з іншымі дзяржавамі Еўропы, пачаў адбудову паднявольнай і вайною знішчанай Бацькаўшчыны. Нямеччына, якая ў 1918 годзе акупіравала заходнюю і цэнтральную Беларусь, не прызнавала яе незалежнасць. Становішча было цяжкае: з двух бакоў наступалі на Беларусь моцныя, добра ўзброеныя сілы — бальшавікі з усходу і палякі з захаду. Узброеныя сілы БНР былі слабыя, каб даць належны адпор. Беларускія войскі мужна змагаліся з куды мацнейшым ворагам. Найлепей было арганізавана абароннае змаганне супраць бальшавікоў у Слуцку ў лістападзе і ў снежні 1920 года, якое ўвайшло ў беларускую гісторыю як Слуцкае паўстанне. Сярод паўстанцаў быў і наш зямляк паэт Макар Краўцоў з лясной вёсачкі Баброўня. Ім і быў створаны ваяцкі гімн «Мы выйдзем шчыльнымі радамі...», за які паэт пазней заплаціў сваім жыццём.

**Мы выйдзем шчыльнымі радамі**
**На родны, вольны свой прастор.**
**Хай воля вечна будзе з намі,**
**А гвалту мы дамо адпор!..**

Аб гімне Макара Краўцова яго пляменнік з вёскі Баброўня Платон Касцевіч, якому зараз 84 гады, успамінае: «Ваяцкі гімн, які напісаў Макар Краўцоў, у вёсках пры Польшчы па вечарах спявала моладзь, хлопцы і дзяўчаты, якія выступалі супраць польскіх акупантаў і іх памагатых. Кожны з нас ведаў яго на памяць. Вось і я да гэтага часу помню яго, хоць і стары...»

(Заканчэнне на 7-й стар.).




У гэтым годзе 1 верасня прынесла бацькам, настаўнікам і вучням больш хваляванняў і праблем, чым радасці і святочнага настрою. «Чаму такі сумны першакласнік Андрэй Басаў!» Адказ на гэта пытанне ў артыкуле «НАШТО БЫЛО ЗМАГАЦЦА ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ!», змешчаным на 3-й стар.

Фота Віктара СТАВЕРА.

УРАДЖАЙ-92

## БУДЗЕМ З ХЛЕБАМ

Думка пра тое, што сухое, гарачае лета не парадуе нашых хлебаробаў добрым ураджаем, відаць, аказалася беспадстаўнай. Як паведамляе Дзяржкамстат рэспублікі, уборачная плошча збожжавых і зернебабовых культур з улікам летняй гібелі пасеваў і выкарыстання пасеваў на кармы, склала 2 456 тысяч гектараў, што крыху менш, чым летась. Але ўраджайнасць гэтага года значна перавысіла мінулагоднюю: у сярэднім з кожнага гектара сабрана 31,2 цэнтнера супраць 28,8 у мінулым.

Несумненнымі лідэрамі на жніве сталі хлебаробы Брэстчыны, яны сабралі па 34,5 цэнтнера збожжа з гектара, А вось самы вялікі кавалак беларускага каравая вырасцілі працаўнікі Мінскай вобласці: на іх рахунку 1 553 тысячы тон намалочанага збожжа.

Валавы збор збожжа пасля дапрацоўкі па рэспубліцы чакаецца 6,8 мільёна тон і перавысіць леташні аб'ём на паўмільёна.

Аднак, паводле прагнозаў спецыялістаў, чакаецца недабор ранняй бульбы і гародніны.

«ЗГОДА» — ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

**Партыя народнай згоды (ПНЗ) імкнецца давесці, што яна ўзнікла не выпадкова і кожным крокам у сваёй арганізацыйнай дзейнасці сцвярджае сябе на палітычнай арэне рэспублікі. Пра гэта сведчыць і выхад першага нумара газеты «Згода». Партыя народнай згоды займела сваё выданне, свой орган, а значыць, і магчымасць шырока распаўсюджваць свае ідэі, выказваць сваё стаўленне да палітычнага жыцця Беларусі.**

**Мяркуючы па першым нумары, можна сказаць, што «Згода» ўжо мае свой твар. Праўда, на ім будуць з'яўляцца новыя рысы і рысачкі, што засведчаць характар выдання, але ўжо сёння твар гэты выклікае прыязнасць. Выклікае сваім паважлівым стаўленнем да чытача, сваёй вострай, але карэктнай палемічнасцю, канструктыўнасцю сваёй нязгоды з тым ці іншым фактам палітычнага жыцця ці эканамічнага пастулата.**

**«Згода» прэтэндуе на ролю цікавай грамадска-палітычнай газеты. Ужо ў першым нумары чытач не абміне ўвагай артыкул старшыні ПНЗ Г. Карпенкі «Згода — патрабаванне часу», будзе шукаць адказ на пытанні, ад якіх ва ўсіх нас баліць галава, у эканамічнай праграме, якую выкладае на старонках газеты дырэктар эканамічнага цэнтра «Экон» Яўгеній Доўгель («Выхад з крызісу ёсць!»), пазнаёміцца з канцэпцыяй праекта закона аб выбарах, над якім працуе рабочая група пад кіраўніцтвам члена ПНЗ, народнага дэпутата Беларусі Віктара Ганчара. Ну, і вядома ж, хто абміне ўспаміны Канстанціна Езавітава пра Першы Усебеларускі кангрэс.**

**Рэдакцыя новага выдання абяцае зрабіць газету штотыднёвай. Выходзіць яна будзе на рускай і беларускай мовах.**

**НА ЗДЫМКУ: першы нумар газеты «Згода».**



СЁННЯ Ў НУМАРЫ:

БЕЛАРУСЬ У ГЕАПАЛІТЫЦЫ — 2 стар.

ВЫХОД ИЗ КРИЗИСА ЕСТЬ! — 4 стар.

ХТО ПАСЛЯ КЕБІЧА? — 8 стар.

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

ЗГОДА

N 1(1)

Заснавана у ліпені 1992 г.

Кошт 2 руб.



ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

ГЕННАДИЙ КАРПЕНКО,

СОГЛАСИЕ — ВЕЛЕНИЕ ВРЕМЕНИ

ПАДРЫХТОЎКА МЕНЕДЖЭРАЎ

## ВУЧЫЦЦА Ў МІНСКУ, СТАЖЫРАВАЦЦА Ў ГЕРМАНІІ

Хутка ў Мінску на базе Беларускай гандлёва-прамысловай палаты адкрыецца філіял Лейпцыгскага саюза менеджэраў. Раней беларускія менеджэры вучыліся ў Лейпцыгу. Прытым бясплатна. З верасня мінулага года менеджэрскі дыплом міжнароднага ўзору тут атрымалі 50 беларусаў. Падрыхтоўка кадраў для нашай эканомікі ў Германіі будзе працягвацца і ў далейшым. Аднак цяпер тэарэтычную частку навучання большасць нашых будучых менеджэраў зможа праходзіць дома. Стажыравацца ж яны будуць на прадпрыемствах Усходняй Германіі, таму што вопыт пераходу да рынку былой ГДР найбольш падыходзіць для Беларусі.

ПАМЯЦІ СЛАВУТАЙ ПАЭТКІ




**22 жніўня на могілках Зэльвы адбылося адкрыццё надмагілля і пакутніцкага крыжа на магіле славутай беларускай паэткі Ларысы Геніюш.**

**Над праектам помніка працавалі скульптар Шатэрнік, мастак Скрамблевіч з сябрамі. Грошы на помнік збіраліся грамадскім чынам.**

**Да магілы нашай зямлячкі з'ехаліся пісьменнікі, паэты, і творчая інтэлігенцыя Беларусі, і тыя, хто яе выдатна ведаў пры жыцці.**

**Больш дваццаці чалавек, што прыйшлі ўшанаваць светлую памяць славутай паэткі, прачыталі вершы, усклалі кветкі да помніка.**

**Ад беларускага ўрада на ўшанаванне памяці Л. Геніюш прыехаў Пётр Краўчанка — міністр замежных спраў Рэспублікі Беларусь.**

**Аматары паэзіі Ларысы Геніюш і яе сябры гаварылі аб тым, што на месцы, дзе доўгі час жыла паэтка, па вуліцы Савецкай, 5, у наступным годзе ў дзень яе нараджэння мяркуецца ўстанавіць бюст. Час падумаць і аб зборы яе паэтычнай спадчыны, адкрыцці літаратурнага музея ў Зэльве.**

**У гэты ж дзень у мясцовым раённым Доме культуры светлай памяці беларускай паэткі і грамадскага дзеяча Л. Геніюш быў пастаўлены монаспектакль «Белы сок» па яе «Споведзі», які выканала артыстка тэатра аднаго акцёра «Зьніч» Галіна Дзягілева.**

**Але ніводнае з мерапрыемстваў дня, прысвечаных памяці Ларысы Геніюш, не палічылі патрэбным наведаць прадстаўнікі мясцовай улады.**

**Што гэта — непавага! Ці да іх пакуль не дайшло разуменне, кім была Л. Геніюш, што так апантана і мужна адстойвала сваім жыццём нашу Незалежнасць!!**

**НА ЗДЫМКУ: на магіле Ларысы Геніюш у Зэльве.**

**Пётр ЖЭБРАК.**

ЗАЯВА БЗВ

## ДУШАЦЬ АДРАДЖЭННЕ

Прэс-цэнтр БЗВ паведаміў, што ініцыятыва Беларускага згуртавання вайскоўцаў, накіраваная на ўзмацненне патрыятычнага выхавання насельніцтва, далучэнне грамадзян Беларусі да слаўнай гістарычнай спадчыны беларускага народа і правядзенне 8 верасня святкавання дня беларускага войска ў сувязі з гадавінай славутага бою нашых продкаў пад горадам Орша, негатыўна ўспрынята Міністэрствам абароны рэспублікі.

Нягледзячы на падтрымку ідэі Беларускага згуртавання вайскоўцаў народнымі дэпутатамі, грамадскасцю, грамадскімі і палітычнымі аб'яднаннямі, 28 жніўня ў дырэктыве, накіраванай у войскі, міністр абароны называе патрыятычнае імкненне кадравых ваенных і воінаў запасу прыняць 8 верасня 1992 года ў грамадска значнай форме Ваенную прысягу на вернасць беларускаму народу і яго дзяржаве антыдзяржаўнай акцыяй, а ўдзел у ёй ваеннаслужачых будзе разглядацца як палітычная дзейнасць.

БЗВ лічыць, што такая пазіцыя Міністэрства абароны, яго адмоўныя адносіны да праводзімых урачыстасцей па прапагандзе гістарычнай спадчыны беларускага народа, негатыўная рэакцыя на патрыятычныя пачуцці ваеннаслужачых і воінаў запасу носіць дэструктыўны характар і не садзейнічае адраджэнню нацыянальнай самасвядомасці, забеспячэнню суверэнітэту і незалежнасці Рэспублікі Беларусь.

НОВАЕ АБ'ЯДНАННЕ БЕЛАРУСАЎ

## МАСКОЎСКАЯ «БАЦЬКАЎШЧЫНА»

Звыш 75 тысяч масквічоў у час апошняга перапісу назвалі сябе беларусамі. Сёння гэта найбольш неабароненая група насельніцтва. Маскоўскія беларусы аказаліся поўнасцю адарванымі ад родных каранёў: у велізарным мегаполісе для іх не знайшлося нават невялікага пакойчыка для стварэння свайго цэнтра, дзе б яны маглі сабрацца. Няма магазіна, у якім маглі б набыць беларускую кнігу і народныя сувеніры, не выходзіць ніводная газета на роднай мове. Няма ў Маскве беларускага храма і беларусаў-свяшчэннікаў, адсутнічае нядзельная школа, у якой дзеці вывучалі б мову сваіх бацькоў.

Актывісты беларускага зямляцтва даўно выношвалі ідэю стварыць грамадскую арганізацыю, здольную аб'яднаць усіх землякоў, падтрымліваць іх маральна і матэрыяльна, па магчымасці абараняць сацыяльна.

І вось, нарэшце, на ўстаноўчым сходзе беларусаў Масквы і Падмаскоўя створана маскоўскае аб'яднанне беларусаў «Бацькаўшчына». Як запісана ў статуце яго, гэта добраахвотная грамадская, культурна-асветная, сацыяльна-дабрачынная арганізацыя. Мэта і задачы яе — вывучаць і прапагандаваць беларускую гісторыю, культуру, мову, наладжваць цесныя сувязі з беларусамі, дзе б яны ні пражывалі, адраджаць лепшыя традыцыі дабрачыннасці, міласэрнасці і асветы, дапамагаць, прадстаўляць і абараняць інтарэсы сваіх членаў у дзяржаўных органах, арганізоўваць медыцынскую і юрыдычную дапамогу ахвярам Чарнобыля, распрацоўваць і рэалізоўваць эканамічныя і сацыяльныя праграмы.

Старшынёй аб'яднання «Бацькаўшчына» выбраны вядомы ваенны юрыст Аляксандр Глод.

НАВУКОЎЦЫ АБ'ЯДНОЎВАЮЦЦА

## ФОНД САЦЫЯЛЬНАЙ АБАРОНЫ

Акадэмія навук Беларусі, Рэспубліканскі камітэт прафсаюза работнікаў АНБ, Беларускі эканамічны саюз, выдавецтва «Навука і тэхніка», таварыства генетыкаў і селекцыянераў РБ, Беларуская політэхнічная акадэмія, Мінская прамысловая біржа вытворцаў, Мазырскае нафтаперапрацоўчае аб'яднанне, Мінскі медінстытут, Беларускі інстытут удасканалення ўрачоў і Гомельскі медінстытут выступілі заснавальнікамі дабрачыннага фонду сацыяльнай абароны навукоўцаў «АСАНА». Фонд будзе займацца прававой і матэрыяльнай абаронай навукоўцаў, ствараць банкі новых ідэй, распрацовак і тэхналогій, развіваць на Беларусі ўсе навуковыя напрамкі і ўкараняць дасягненні навукі ў практыку, распаўсюджваць і папулярызаваць веды, развіваць міжнародныя сувязі.

ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ

## ПАРЫТЭТА НЕ АТРЫМАЛАСЯ

— Справа на Лі Харві Освальда ў добрым стане знаходзіцца ў архіве КДБ Беларусі, — паведаміў старшыня КДБ рэспублікі Эдуард Шыркоўскі. — Без рашэння нашай вышэйшай улады — Вярхоўнага Савета рэспублікі — гэтыя дакументы не будуць ні прададзены, ні выдадзены нікому. Чуткі наконт продажу ЦРУ, мабыць, адносяцца да перыяду, калі мы ўваходзілі ў склад КДБ Саюза і былы старшыня Бакацін меў намер азнаёміць ЦРУ з усімі тамамі гэтай справы. Мы запатрабавалі, каб гэта праходзіла на парытэтнай аснове, але ж амерыканцы заявілі, што не можа нават ісці размова аб прад'яўленні якіх-небудзь дакументаў з іх боку. Тады і мы адказалі адмовай, на гэтым усё і скончылася.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

● Сотні студэнтаў з Афганістана, Эфіопіі, Балівіі, што вучыліся ў ВНУ Беларусі, адмаўляюцца вяртацца дамоў і просяць даць ім палітычнае прыстанішча. Тыя з іх, што ажаніліся з нашымі суайчынніцамі, дамагаюцца беларускага грамадзянства.

● У Беларусі больш за 6 мільёнаў гектараў ворыва. Пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС 261 тысяча гектараў выключана з сельскагаспадарчых угоддзяў. Акрамя таго, 495,5 тысячы гектараў падвергліся эрозіі глебы, а яшчэ для 3,7 мільёна гектараў ёсць такая ж небяспека.

● За першую палову 1992 года прамысловасць Мінска паставіла на экспарт амаль 7 тысяч трактароў, 432 грузавыя аўтамабілі, 20,3 тысячы веласіпедаў, 128,9 тысячы халадзільнікаў, 26 тысяч тэлевізараў. Гэта значна менш, чым за такі ж тэрмін летась. У агульным аб'ёме прамысловай вытворчасці пастаўкі за мяжу складаюць толькі 3,8 працэнта.

● Прэм'ер Беларусі Вячаслаў Кебіч паабяцаў адбудаваць нанава вёскі Калюга і Сельцы ў Глускім раёне. Вёскі гэтыя ў выніку лясных пажараў, якія сёлета пляжаць Беларусь, амаль што цалкам згарэлі. Пайшлі дымам 48 хат з прысядзібнымі пабудовамі, загінулі ў агні дзве жанчыны.

● Невялікіх памераў крышталь алмазу знойдзены на поўдні Беларусі. Геолагі лічаць, што мы маем усе шанцы шукаць і знайсці алмазы, асабліва ў зоне Жлобіна, Рагачова, дзе выяўлены кімберліты з алмазамі.

● Толькі ў Мінскай вобласці сёлета прапаў без вестак 271 чалавек. Гэта людзі самага рознага ўзросту — ад дзяцей да старых. Адшукана і ўстаноўлена пакуль 190 асоб, пра лёс астатніх ніхто не ведае.

● За перыяд студзень—ліпень гэтага года ў Беларусі зарэгістравана 42,7 тысячы шлюбаў, 23,1 тысячы сем'яў распаліся, нарадзіліся 75,3 тысячы чалавек. У 1991 годзе за такі ж час гэтыя лічбы адпаведна складаюць 48,1—22,3—80,5.

## ЗА ТЫДЗЕНЬ ДА НОВАГА НАВУЧАЛЬНАГА ГОДА

# НАШТО БЫЛО ЗМАГАЦЦА ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ?

**Да першага верасня ў нас рыхтуюцца загадзя, і тым не менш бацькам не хапае аднаго-двух дзён, каб сёе-тое купіць, школе — каб навесці апошні глянец, будаўнікам — каб убіць апошні цвік. Але надыходзіць першае верасня, і аказваецца, што ўсе ўсё паспелі, а тыя, з-за каго было столькі хваляванняў, з велізарнымі букетамі кветак крочаць у школу, не падазраючы, колькі праблем давялося вырашыць дарослым, каб гэтае свята адбылося. Ва ўсякім разе так было да апошняга часу. Каб уявіць якім будзе першае верасня сёлета, я напярэдадні наведала некалькі мінскіх школ, а таксама пагутарыла з бацькамі будучых вучняў.**

Калі ў 1989 годзе было прынята рашэнне зрабіць мінскую сярэднюю школу № 190 беларускамоўнай, бацькі не хацелі аддаваць туды сваіх дзяцей і пісалі ва ўсе інстанцыі, патрабуючы стварыць у школе хаця б адзін рускамоўны клас. Прайшло ўсяго тры гады, і сёння можна наладжваць конкурс для тых, хто жадае тут вучыцца, бо такіх значна больш, чым можа ўмясціць школа. Пры гэтым, заўважце, дырэктар школы Зоя Андрухова ад свайго не адступілася: рускі клас так і не быў створаны. Проста тут зразумелі, што сапраўднае адраджэнне роднай культуры трэба пачынаць з дзяцей, каб яны з маленства жылі ў нацыянальным асяродку. А паколькі дзеці такі народ, што прымусіць іх нешта рабіць немагчыма, то варта іх зацікавіць. І стварылі ў школе аркестр народных інструментаў, хор, фальклорны калектыў «Забава», класы выяўленчага мастацтва і многае іншае. Навучанне тут ідзе адразу па некалькіх накірунках, акрамя звычайнай агульнай адукацыі дзеці атрымліваюць яшчэ і музычную. А, можа, самыя галоўныя ўрокі 190-й школы наогул не значацца ні ў адным раскладзе, бо няма такой дысцыпліны, якая навучыла б любові да сваёй зямлі, а можна толькі цярпліва дзесяць год запар паказваць і расказваць вучню, што такое радзіма, яе людзі, яе культура, гісторыя, музыка, літаратура. І вось тады адчуе чалавек і нацыянальную прыналежнасць, і беларусам ён будзе не толькі па пашпарту. Не мова наша вінаватая ў тым, што дзеці не хочуць яе вучыць, а людзі, якія выкладаюць яе без любові, без сэрца, без душы. А калі настаўнікі знаходзяць новыя, цікавыя, нетрадыцыйныя шляхі выкладання, усе праблемы знікаюць і родная мова становіцца любімай.

190-я школа да навучальнага года падрыхтавана выдатна. Але дзе сёння было ўзяць сродкі, каб і кафэ адкрыць, і балетны клас абсталяваць, і трэнажоры купіць? Мы ўжо прывыклі клясці наш час, забываючы пра тое, што людзям прадпрымальным ён дае добры шанц праявіць свае здольнасці. Невялікае памяшканне ў будынку школы было аддадзена будаўнічаму кааператыву. Менавіта ён і дапамог аформіць кафэ і класы, ды і плата за арэнду школе лішняй не будзе.

Вось я і намалявала карціну ўвасаблення ў жыццё старога лозунга «Усё лепшае — дзецям». Але ў той жа дзень мне давялося пабываць яшчэ ў адной мінскай школе — спецыяльнай агульнаадукацыйнай школе-інтэрнаце № 13 для дзяцей-інвалідаў па слыху. І ў мяне ўзнікла сумненне, ці зможа наогул адкрыцца яна да 1-га верасня. У райвыканкома сродкі на тое, каб замяніць старое цэнтральнае ацяпленне новым, знайшліся толькі ў ліпені. Пасля таго, як я прайшла па школе і пагутарыла з дырэктарам Мікалаем Дрыгам і яго намеснікам Барысам Эстрыным, я зразумела, што рыначная эканоміка падзяліла на багатых і бедных не толькі людзей, але і навучальныя ўстановы. А вучням гэтай школы патрэбна больш, чым іншым, яшчэ і таму, што яны не могуць абысціся, напрыклад, без гукаўзмацняльнай апаратуры, мікрафонаў. Грошай на ўсё гэта няма, бо іх няма ў райвыканкома. Спонсары былых часоў, якіх тады называлі проста шэфамі, сёння больш не дапамагаюць, рынак разарыў іх саміх, а кааператыва, які б захацеў наняць у іх памяшканне, на жаль, не знайшлося.



Можа потым, калі рынак набудзе свае сапраўдныя рысы, мы ўздыхнём з палёгкай, расправім плечы, усміхнёмся і ў рэшце рэшт зразумеем, дзеля чаго пакутавалі ўсе гэтыя гады. Напэўна, калі-небудзь мы ўвогуле зразумеем, навошта нам такі рынак і чым ён лепшы за славуты брэжнеўска-чарненкаўскі «застой». Магчыма, але сёння мне верыцца ў гэта не больш, чым пяць год таму верылася ў камунізм. Зноў мы, адмаўляючы сабе ў самым неабходным, будуем нешта незразумелае з мэтай, якая зноў схавана ад нас ружовай смугою далёкай будучыні, і зноў на шляху да гэтай будучыні ніякіх здабыткаў, а толькі страты, хаця і страчваць, здаецца, ужо няма чаго. Голыя, босыя, галодныя, толькі дзеці засталіся. Значыць, надышла іх чарга? Бедныя бацькі, бедныя дзеці. Дарэчы, пра бедных бацькоў. Думаю, што яны не раз хапаліся за сэрца, рыхтуючы свайго сына ці дачку да пачатку вучэбнага года.

Напярэдадні першага верасня я папрасіла сваю суседку Люду Басаву, маладую і прыгожую жанчыну, маці дваіх дзяцей — чацвёртакласніцы Вікі і першакласніка Андрэя, запісваць кошт усіх пакупак, зробленых пры падрыхтоўцы да школы. Але калі мы сустрэліся з ёю, каб падсумаваць такія выдаткі сярэднестатыстычнай беларускай сям'і, то было не да падлікаў і размоў. Гляджу ў паперку з яе запісамі: касцюм на хлопчыка — 660 рублёў, дзве кашулі па 70 рублёў, чаравікі — 260, а яшчэ — партфель, сшыткі, дзённік, тачылкі, палачкі для ліку, раней пра гэтую драбязу было смешна гаварыць, такія рэчы каштавалі капейкі, а зараз цана толькі прописаў для першага класа — 20 рублёў.

— Але ведаеш, — гаворыць Люда, — больш за ўсё мяне ўразіў кошт фарбаў.

— Колькі?— пытаюся я.

— Гуаш — 68 рублёў...

Я ўздрыгваю і гляджу на свайго трохгадовага сына. Цікава, колькі будзе каштаваць гуаш, калі прыйдзе час яму ісці ў школу? А можа, тады ўжо і гуашы не будзе? Скончыцца, як каляровыя алоўкі, якія ўвогуле сёння не выпрабляюцца на ўсіх неабсяжных прасторах нашага СНД.

— Ды што гаварыць, калі пастрыгчы Андрэя перад школай каштавала мне 50 рублёў.

— А яшчэ ж спатрэбяцца кветкі, — успамінаю я. А колькі яны будуць каштаваць напярэдадні свята, ведае толькі Бог і тыя, хто іх прадае.

Сядзім, маўчым. Пра тое, колькі каштуе сабраць у школу яшчэ і Віку, я ўжо не пытаюся.

— Люда, якая ў цябе зарплата?

— 1 400 рублёў. Разумееш,— працягвае яна, — яшчэ некалькі гадоў таму я лічыла, што ў нас нармальная сям'я з нармальным сярэднім дабрабытам, што сродкаў хопіць і на тое, каб адзецца-абуцца, і на тое, каб у суботу схадзіць у кафэ, а ў нядзелю — з дзецьмі ў кіно ці ў парк. У нас была такая завядзёнка — мыць бялізну і прыбіраць у будзённыя дні, каб у выхадныя некуды пайсці. Сёння ўсё гэта адыходзіць у мінулае, таму што на нядзельную прагулку сям'і з чатырох чалавек мне трэба будзе працаваць паўмесяца!

Не падумайце, што Людзіна сям'я бедная. Муж у яе інжынер, хапае і дзецям на марожанае, і ў іх трохпакаёвай кватэры ўтульна і прыгожа. Адным словам, як і гаварыла Люда, «сям'я з нармальным сярэднім дастаткам». Але за апошні час «нармальны сярэдні дастатак» стаў такім, што ўсё менш і менш сярод нас людзей, якія могуць купіць дзіцяці шакаладку, хаця з'явіліся і такія, хто плаціць па пяць тысяч у месяц за вучобу свайго дзіцяці ў прэстыжным каледжы ці гімназіі. І дай ім Божа, але нельга ж усё наша жыццё арыентаваць на іх! Што б ні гаварылі, але большасць насельніцтва — гэта тыя, чый уклад у ашчадны банк не перавышае паўтары тысячы рублёў, і ўсе падлікі вядуцца ад зарплаты да зарплаты... Калі ўжо сёння бацькі прыходзяць у школу са скаргамі на тое, што не могуць купіць сыну ці дачцэ ўсё патрэбнае да пачатку заняткаў, то што яны скажуць, даведаўшыся пра кошт харчавання ў школе? А ён складае амаль 50 рублёў у дзень, 30 працэнтаў з якіх, праўда, будзе кампенсавана.

У цяжкім становішчы сёння апынуліся многія школы і многія сем'і. І справа нават не ў тым, што хтосьці не змог знайсці сабе спонсараў — сёння яны патрэбны кожнай нашай сям'і, дзе ёсць школьнік. Але добра было б, каб такім спонсарам стала дзяржава, таму што самы галоўны і самы натуральны яе абавязак — клапаціцца пра дзяцей, пра сваю будучыню. Гэта як інстынкт самазахавання ў чалавеку, які ў выпадку небяспекі не чакае каманды мозгу, а ўключаецца аўтаматычна і ратуе нас у самай крытычнай сітуацыі. Да якой жа ступені разладжаны арганізм нашай дзяржавы, калі нават інстынкты не працуюць. Што ўжо гаварыць пра розум... А гаварыць трэба, бо навошта сёння развіваць эканоміку, калі яе праз 10—15 гадоў усё роўна разваляць некваліфікаваныя рабочыя і інжынеры, навошта ўкладваць грошы ў развіццё нацыянальнай культуры, бо выхаваным жабрацкай школай людзям хопіць для задавальнення сваіх інтэлектуальных запатрабаванняў «Тарзана» і «Анжэлікі», навошта, урэшце, было змагацца за незалежнасць, каб пасля перадаць яе тым, хто па прычыне сваёй неадукаванасці не зможа ні ацаніць яе, ні карыстацца ёю?

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

**НА ЗДЫМКАХ: клас працоўнага навучання і новае вучнёўскае кафэ ў сярэдняй школе № 190; ці паспеюць падрыхтавацца да 1 верасня ў школе № 13 для дзяцей-інвалідаў па слыху (правы здымак унізе).**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**





### *МАЁЙ ВЯСНЫ СЯБРЫ*

# ДА СПАТКАННЯ

Юнацтва марыць. Старасць успамінае. І не абы-што—самае далёкае і светлае, радаснае на парозе юнацтва і сталасці. Праз адлегласць часу звычайнае і будзённае здаецца рамантычным і прыгожым, як сама маладосць. Успамінаеш, і шкада нездзейсненых летуценняў, незабыўных сустрэч і развітанняў назаўсёды.

І я ўспамінаю не самую лепшую пару свайго юнацтва: галодныя, халодныя, нават беспрытульныя трыццатыя гады. Здавалася, яны адышлі назаўсёды, аж не, жыццё паўтараецца нават за адзін чалавечы век. Вяртаецца тое ж, апрача маладосці.

Колькі было захапленняў, спадзяванняў, веры ў шчаслівую будучыню! І колькі неспадзяваных удараў прыпала на лёс майго пакалення!

У зайздросным дзевятнаццацігадовым узросце я надрукаваў з дзесятак наіўных, галоўным чынам, «барабанных» вершыкаў і ў 1932 годзе трапіў у рэдакцыю «Чырвонай змены» на пасаду стыльрэдактара і загадчыка літаратурным аддзелам. Рыфмаваная прадукцыя пачаткоўцаў не змяшчалася ў сталах. Ад майго папярэдніка Міколы Нікановіча мне дасталася цэлая скрыня «неадказаных» лістоў з вершамі. Я некалькі месяцаў пісаў на іх стандартныя адказы: «Вучыцеся ў класікаў, удасканальвайце форму і змест».

Рэдакцыя тады была ў невялічкім аднапавярховым дамку на вуліцы Карла Маркса. Рэдактар займаў цёмны канцавы пакойчык, астатнія работнікі сядзелі за ссунутымі сталамі ў адным пакоі. Пад восень з'явілася ў нас высокая, статная залатавалосая маладзенькая мастачка. Назвалася Галяю. Потым даведаліся і прозвішча—Дакальская. У той час людзі пазбягалі распытваць, хто ты, што ты і адкуль. У многіх былі свае няшчасці, пакуты і таямніцы. Асаблівая насцярожанасць была да залішне цікаўных.

Да Галі кожны дзень забягала меншая сястрычка, невысокая кругленькая Бірута. Незвычайнае імя напачатку здзіўляла, а потым прывыклі. Яны разам «абедалі»—300 грамаў хлеба (норма служачага), павідла з морквы на шматку грубой абгортачнай паперы. Сястрычкі ў яго мачалі шчопці хлеба і са смакам елі. Бірута недзе вучылася, заўсёды пазнілася і адразу знікала. Галя пісала прыгожыя загалоўкі да «ўдарных» матэрыялаў, малявала дасціпныя карыкатуры на тоўстых буржуяў у цыліндрах і на кулакоў-міраедаў у камізэльках і блішчастых ботах.

Часам у рэдакцыю, а галоўным чынам да Галі, заходзіў вядомы жывапісец Мікола Пашкевіч. На выстаўках каля яго карцін заўсёды збіраліся натоўпы аматараў мастацтва. Памятаю: на адной з іх звычайная лямпа з закопчаным шклом, здавалася, так яскрава свеціць, што некаторыя заглядвалі за раму, ці няма там падсветкі. З кожнай новай карцінай расла папулярнасць Пашкевіча, пра яго гаварылі і пісалі газеты. Ён ведаў сабе цану, але быў просты, дасціпны і вясёлы, умеў пажартаваць, расказаць нейтральны анекдот.

Часам ён разглядаў Галіны малюнкі: нешта хваліў, нешта папраўляў, яны ціха размаўлялі і некуды не надоўга знікалі. Калі ўсе разыходзіліся, Галя апошняю заставалася ў рэдакцыі. Аднойчы прыбіральшчыца па сакрэту сказала, што бескватэрная мастачка начуе на ссунутых сталах.

Здаралася сустракаць Пашкевіча разам з пісьменнікам Янкам Шарахоўскім у парку «Прафінтэрн» (цяперашні імя Горкага). Мікола быў найцікавейшым суразмоўнікам, яго эрудыцыя ў розных галінах мастацтва здзіўляла і захапляла мяне — юнака з местачковай адукацыяй. Я сумяшчаў работу ў рэдакцыі з вучэннем у педінстытуце і перад дыпломнаю работаю быў вымушаны развітацца з «Чырвонаю зменаю» і ўсё радзей і радзей сустракаў ранейшых сяброў. Аднойчы Пашкевіч сказаў: «Можаш павіншаваць. Мы пажаніліся з Галяю». Яны нанялі пакойчык, і зажыла дружная сям'я мастакоў. Вяселляў тады не спраўлялі. Распішуцца ў ЗАГСе, а то і проста жывуць без рэгістрацыі—на ўзаемным даверы. Так і век зжывалі. З размоў ведаў, што ў розны час Галя і Мікола вучыліся ў славутым Віцебскім мастацкім тэхнікуме, а потым Пашкевіч удасканальваў майстэрства ў Ленінградскай акадэміі мастацтваў у выдатных педагогаў Рылова, Пятрова-Водкіна, Бродскага. Адным з першых сярод беларускіх мастакоў Пашкевіч быў узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга, а гэта забяспечвала надзейнае становішча і адпаведна—дабрабыт. У маладой с'ямі з'явілася кватэра і майстэрня.



У 1936 годзе жыццё маё пакацілася ў бездань: абылганы, зняважаны і зняволены пасля доўгіх выпрабаванняў апынуўся далёка ад дому за калючым дротам. Як мы вытрывалі ўсе гэтыя страшныя гады, аднаму Богу вядома. У 1944 годзе ў наш лагер пайшлі адзін за адным этапы з вызваленай Беларусі. Найбольш было падлеткаў і юнакоў з так званага Саюза беларускай моладзі. У адным з этапаў сустрэўся мастак Уладзімір Станкевіч. Я пачаў распытваць пра лёс агульных знаёмых. Ён мне расказаў, што вайна Пашкевіча з сям'ёю заспела ў Пухавічах, немцы ледзь не расстралялі Міколу нібыта за сувязь з партызанамі, але яго выратавала Галіна маці. Яна валодала нямецкаю моваю і расказала, што яе зяць вядомы мастак і ні ў чым не вінаваты. Камендант захацеў пераканацца. Прывялі Пашкевіча, прынеслі яго падрамнік і фарбы, камендант прыняў незалежную позу, і пачаўся выратавальны сеанс. Партрэт атрымаўся ўдалы. Ледзь не кожнаму афіцэру захацелася, каб яго ўвекавечыў беларускі мастак. Ад заказаў не было адбою. «Ганарар» плацілі пераважна натураю. Каб неяк існаваць, малявалі з Галяю іконкі, «відзікі», партрэты. Так і жылі.



Калі загрымелі вызваленчыя бai на Беларусі, Пашкевіч разумеў, што яго чакае за партрэты афіцэраў, іконкі і знаходжанне пад акупацыяй, і сям'я з Пухавіч падалася на Захад. Вось і ўсё, што ведаў Станкевіч.

Праз многа гадоў я вярнуўся ў Мінск, з'явіліся новыя клопаты і турботы. З былых чырвоназменаўцаў нікога не было, але яшчэ стаяў той беленькі дамок, праходзячы каля яго, я ўспамінаў сваё юнацтва, даўнейшых сяброў і абавязкова Галю і Колю Пашкевічаў.

У першым Беларускім Дзяржаўным тэатры (цяпер імя Я. Купалы) іграла Паўлінку і маладых нашых сучасніц Галіна сястра Бірута Дакальская. Мы часам сустракаліся на хаду, на бягу віталіся, перакідваліся звычайнымі пытаннямі пра здароўе і справы. Ад знаёмых артыстаў я ведаў, што ў пачатку чэрвеня 1941 года тэатр выехаў на гастролі ў Адэсу. Бірута сваю трохгадовую дачушку пакінула сястры Галі і сваёй маме. Тэатр не паспеў як след разгарнуцца, як пачалася вайна і фашысцкія самалёты дапялі і да Адэсы. Тэатр апынуўся ў Томску. У Сібіры артысты засталіся ў летнім адзенні, мерзлі і недаядалі разам з усімі, але натхнёна ігралі ў спектаклях, давалі канцэрты на заводах і ў шпіталях і нічога не ведалі пра сваіх родных у разбітым, знявечаным Мінску. Так і гаравалі да вызвалення Беларусі. Увосень 1944 года з радасцю, трывогамі і надзеямі вярталіся дамоў. 27 верасня цягнік з артыстамі напаткала бяда: у крушэнні загінула некалькі таленавітых артыстаў, астатнія атрымалі фізічныя і псіхалагічныя траўмы.

Наперадзе чакала невядомасць. Што з сем'ямі, ці жывыя дзеці, дзе бацькі і жонкі. Нічога не ведала і Бірута пра лёс свае дачкі. Не ведала яшчэ многа дзесяцігоддзяў. У Мінску адразу пабегла туды, дзе жылі Галя, маці, Коля і яе маленькая Рута. Ад дома засталіся сцены, гурба друзу, арматуры і бітай цэглы, зарослых скрыпенем і палыном. Дзе ні шукала, у каго ні пытала, нічога даведацца пра сваіх не магла. Муж загінуў у першых баях пад Мінскам, дачка з Галінай сям'ёю знікла бясследна. У думках то хавала ўсіх, то ўваскрашала, то хавала зноў.

Але трэба было неяк жыць у разбураным горадзе, разам з усімі разбіраць завалы, цярпець нягоды, а ўвечары ў тэатры іграць вясёлых сучасніц, спяваць і смяяцца, калі душаць слёзы і боль за страчаных родных.

Мінулі гады і дзесяцігоддзі, аднавіўся Мінск, акрыяў тэатр, да яго прыйшла заслужаная слава, акадэмічнасць і імя вялікага Купалы. Я часам сустракаўся з Бірутай у тэатры, на радыё, гаварылі пра будзённае, а пра самае важнае і балючае пытаць не адважваўся. У тэатры ведалі, што родзічы Біруты Дакальскай жывуць нібыта недзе за мяжой. Пра гэта яна мусіла пісаць у анкетах. Адзін радок станавіўся нязводнаю плямаю на ўсё творчае жыццё: пра адказныя ролі або ганаровыя званні не было чаго і думаць. Мала было адной бяды —страціць **дачку і ўсіх родных,** дык за гэта яшчэ—недавер, падазронасць, зароона на творчы рост і сумленную ацэнку таленту. Змірылася і з гэтым Бірута Дакальская.

Ішоў час, мяняліся палітычныя ветры, адыходзілі і з'яўляліся новыя генеральныя ветрадуі, і нарэшце загаварылі пра дэмакратыю, рассунулася жалезная заслона, цікаўныя і адважныя пацягнуліся за рубеж, артысты, мастакі і вучоныя траплялі і за акіян. Трывога і надзея зноў забіліся ў сэрцы Біруты Дакальскай: можа адважыцца і пачаць пошукі.

Прыемнае і непрыемнае заўсёды здараецца раптам. Дык вось раптам у 1989 годзе ў тэатр прыйшоў ліст з Каўнаса ад мастачкі Міліты. Яна цікавілася, ці працуе ў тэатры Бірута Дакальская, паведамляла, што ў Злучаных Штатах Амерыкі сустрэла яе сястру, запісала яе і свой адрас. Можна сабе ўявіць, што рабілася з Бірутай Альфонсаўнай. Першым жа цягніком паімчалася ў Каўнас. Міліта ёй расказала, што ў каліфарнійскім горадзе Санта-Моніка на яе літоўскую мову звярнула ўвагу прыгожая і статная жанчына і па-літоўску спытала, адкуль яна. А пачуўшы, што Міліта неўзабаве вяртаецца дамоў, папрасіла даведацца пра яе сястру.

Праз 48 гадоў праз усю Еўропу, праз акіян, праз штормы і буры сёстры пачулі адна адну па тэлефоне. Што гаварылі, ніяк не маглі ўспомніць. Бірута зразумела, што яе дарослая дачка даўно замужам, Галіна Алія, як і бацькі, мастачка, Коля вядомы жывапісец. Пасля доўгай паўзы пачула: няма толькі мамы. Галя бясконца паўтарала: «Прыязджай! Прыязджай абавязкова. Пасылаем грошы і выклік. Чакаем!»

Так амаль праз пакутлівае паўстагоддзе 1990 год у жыцці адзінокай Біруты і дружнай сям'і Пашкевічаў у Санта-Моніка стаў самым шчаслівым: скончыліся трывогі, невядомасць, страх і бясконцы тупы боль.

Бірута пачала збірацца ў далёкую дарогу. А трывога не пакідала яе: як сустрэне Рута, ці прызнае незнаёмую жанчыну за маці, ці зразумеюць адна адну. Прайшло ж у невядомасці цэлае жыццё. Зноў пачаліся бяссонныя ночы. Тады былі страшныя і змрочныя, цяпер —трывожна-светлыя, поўныя спадзяванняў на самае вялікае шчасце.

Перад ад'ездам за акіян Бірута пазваніла мне і спытала, ці памятаю я Галю. Я ўзрадаваўся, сказаў, што не толькі памятаю, а часта думаю пра яе і пра Колю—гэтых светлых і таленавітых мастакоў, што ніколі не сумняваўся ў высакародным і сумленным іх жыцці на самых суровых перавалах нашага кашмарнага стагоддзя. Прасіў перадаць прывітанне і нізкі паклон.

Праз тры месяцы Бірута Альфонсаўна прывезла мне ліст з далёкай Каліфорніі. Каб захаваць яго танальнасць і стыль, падаю некалькі радкоў без перакладу: «22 июнь 1990 г. Дорогой Сергей. Отчество не помню (тады ніхто па бацьку не звяртаўся). Прошли долгие годы, как война, казалось, навсегда разлучила нас с родственниками, знакомыми и милыми друзьями. Мы были уверены, что нас уже никто не помнит, а если и помнят, то плохим словом. Ведь тогда было такое время, если кто-либо смог избежать десять лет наказания без всякой виновности, тот имел клеймо на всю жизнь как враг народа. Но страх прошел, и открылась возможность обмениваться мыслями и приветами...» У наступных лістах, як і ў кароткіх размовах па тэлефоне (а чуваць так, нібыта гавораць з суседняга пакоя), адчуваецца нязменная шчырасць, далікацтва, інтэлігентнасць і шчодрасць з добрым густам у невялічкіх бандэролях.

**Сяргей ГРАХОЎСКІ.**

**НА ЗДЫМКАХ: Галіна ДАКАЛЬСКАЯ — студэнтка Віцебскага мастацкага тэхнікума, 1932 год; Галіна, яе маці і Мікалай ПАШКЕВІЧ з Рутай, дачкой Біруты, на руках.**

**(Заканчэнне будзе).**

## ДОЎГАЧАКАНЫЯ ЛІСТЫ

*Галіне ДАКАЛЬСКАЙ*
*і Мікалаю ПАШКЕВІЧУ*

**З далёкай Каліфорніі лісты**
**Ідуць, нібы з другой планеты,**
**Як граматкі на скрутках берасты**
**Ці як сняжынкі з лютага да лета.**

**А там сумуюць слаўныя сябры,**
**Запальваюць у памяць родных свечкі,**
**Прыгадваюць палескія бары**
**І смуткам затуманеныя рэчкі.**

**Шуміць па лісці першы спорны дождж,**
**Плыве за аблачынкай аблачынка,**
**Бягуць з маленства ў сталасць басанож**
**Хлапчук і прамяністая дзяўчынка.**

**Іх напаткаў нелітасцівы лёс,**
**І разлучыў з Радзімай нечакана,**
**І засталіся любыя да слёз**
**Бары і рэчкі дзесь за акіянам.**

**У Санта-Моніка вясновыя вятры**
**Шумяць і ціха стукаюцца ў шыбы,**
**Там журацца маёй вясны сябры**
**І ўспамінаюць родныя сялібы.**

**Прахопяцца апоўначы ў цішы,**
**І сэрца ўсхваляванае падкажа:**
**«Мальберт чакае. Помні і пішы**
**Вясновыя палескія пейзажы».**

**Ад сэрца к сэрцу цягнуцца масты**
**Праз Акіян да дзедаўскага краю.**
**З далёкай Каліфорніі лісты**
**Заўсёды, як Вялікадня, чакаю.**

**Сяргей ГРАХОЎСКІ.**

# «СВІТАНАК» У РЫЗЕ

**«Світанак» — такую назву носіць таварыства этнічных беларусаў, створанае ў сталіцы Латвіі. З адным з яго арганізатараў — старшым навуковым супрацоўнікам Латвійскай акадэміі медыцынскіх навук Сяргеем КУЗНЯЦОВЫМ — сустрэўся і пагутарыў карэспандэнт БЕЛАПАНа.**

*— Вы былі адным са стваральнікаў таварыства «Світанак». Як да вас прыйшла гэтая ідэя?*

— Ідэя гэта была не толькі ў мяне, а і ў Вячкі Целеша, і ў іншых нашых супрацоўнікаў. Але ў той час у Латвіі была вельмі напружаная сітуацыя ў сувязі са з'ездам Народнага фронта. І потым як грыбы пачалі ўзнікаць нацыянальна-культурныя таварыствы. Шчыра кажучы, не ведаю, з якой мэтай — як процілегласць гэтаму фронту ці як падтрымка.

Мы сабраліся пасля выступлення па мясцоваму тэлебачанню адной з рыжскіх журналістак, у якім яна расказала аб узнікненні дружалюбных сувязей з журналістамі з Беларусі, з якімі разам удзельнічала ў супольнай вандроўцы па Даўгаве. Дык вось, мы сабраліся ў лістападзе 1988 года. Прыйшло чалавек 15 — 20. Сталі раіцца, як жыць, што рабіць, як заснаваць сваё таварыства. Я чуў, што ў Латвіі нешта накшталт гэтага было ў так званы буржуазны час. Такія даволі падрабязныя матэрыялы былі ў Вячкі Целеша. Зыходзячы з таго, што беларусаў у Латвіі 120 тысяч, з іх 40 тысяч — толькі ў Рызе, мы і вырашылі стварыць, дакладней, адрадзіць таварыства этнічных беларусаў і назвалі яго «Світанак».

*— І хто зараз з 40 тысяч рыжан-беларусаў удзельнічае ў «Світанку»?*

— Няшмат. Ды мы і не ставілі сабе мэтай, каб гэта былі ўсе 40 тысяч. У Латвіі, напрыклад, мільён рускіх, але ж тут няма расійскага таварыства на мільён сяброў. Ды і ўвогуле я наглядаў: амаль ва ўсіх замежных краінах гэткае ж становішча сярод беларусаў. У Канадзе беларусаў шмат, але ўдзельнічае ў працы чалавек 10—20, ну, можа. 30. Там, напэўна, крыху іншы падыход, яны больш падтрымліваюць грашыма — і лічыцца, што чалавек у таварыстве. А ў нас у людзей і часу няма, кожны хварэе за сябе, і грашыма таксама не разжыцца.

*— Вы маеце сувязі з іншымі нацыянальнымі таварыствамі тут, у Латвіі, напрыклад, з украінскім, з беларускімі ў замежжы?*

— У замежжы — так, маем. А што тычыцца ўкраінцаў, то з імі нейкі час былі даволі цесныя сувязі. Потым крыху аслаблі. У нас ёсць нешта супольнае, але ёсць і пытанні, якія нас зараз раз'ядноўваюць. Нашы людзі прытрымліваюцца той пазіцыі, што беларусы, як гэта можа ні парадаксальна гучыць, з усіх славянскіх нацый з'яўляюцца ў Латвіі карэннай нацыянальнасцю, таму што Латвія ў сучасных межах займае частку этнічнай Беларусі. Таму калі сюды прыязджалі Шушкевіч, Краўчанка, лідэры БНФ, мы на гэту тэму гаварылі. Любая іншая нацыя ў Латвіі — гэта нацыянальная меншасць, невялічкая частка людзей, якія прыехалі і тут жывуць. А тыя самыя 120 тысяч беларусаў жылі тут заўсёды.

Паўночна-ўсходнюю частку Латгаліі з гарадамі Дзвінск, Краслава можна лічыць беларускім заказнікам. Чысцейшых беларускіх зямель, чым Наддзвінне, я не ведаю. Тут і мова добрая, ёсць і беларускія вёскі, і людзі заўсёды сябе беларусамі адчувалі. Я, шчыра кажучы, схіляюся да думкі: павінна быць пацверджана на паперах, што Латвія знаходзіцца зараз на беларускіх землях. Дзяліць мы нічога не хочам і не будзем, бо гэта вайна. Але трэба, каб Латвія прызнала гэта. Калі гэта будзе зроблена, у нас тады не будзе праблем з тым, што мы, беларусы, у Латвіі адчуваем сябе чужынцамі. Без такога рашэння нам будзе вельмі цяжка, вельмі. І вось пакуль і БНФ, і іншыя займаліся сваімі праблемамі, момант быў упушчаны, і мы тут, прабачце, засталіся: беларусы — у Латвіі.

*— У вас ёсць зараз нейкія кантакты з Народным фронтам Беларусі?*

— Апошні ліст ад іх быў недзе ў сакавіку, калі мне як аднаму з лідэраў «Світанка» прапанавалі праз газеты, праз радыё — я вяду сваю праграму на радыё — звярнуцца да вайскоўцаў-беларусаў, каб яны вярталіся на Бацькаўшчыну. Вось гэта была, як кажуць, апошняя дырэктыва, ЦУ. Я гэтага не зрабіў, таму што гэта справа, перш за ўсё, міждзяржаўных адносін паміж Беларуссю і Расіяй, Беларуссю і Латвіяй.

*— Дарэчы, афіцэры-беларусы з расійскай арміі, якія тут знаходзяцца цяпер, удзельнічаюць у рабоце вашага таварыства?*

— Вайскоўцы ў большасці ўвогуле дэнацыяналізаваныя людзі. І зараз у іх і сваіх праблемаў зашмат: каб тут, што ёсць, з вайсковых складаў прадаць і з'ехаць кудысьці адсюль, таму што шанцаў яны тут не маюць ніякіх. Тут кар'ера не пойдзе, калі ты не маеш такой прафесіі — латыш. Гэта вельмі горка. Калі б я сам быў вайскоўцам-беларусам, я паехаў бы на Бацькаўшчыну, хоць і народжаны тут.

*— Вы нарадзіліся ў Латвіі?*

— Так. Сюды прыехалі мае бацькі пасля вайны, і тут я нарадзіўся. Але адчуваю сябе беларусам. Маці мая з Беларусі, з Гомеля. Там жыве і бабуля.

*— Вы добра валодаеце беларускай мовай. Як вы яе вывучалі?*

— На Беларусі я не жыў ніколі. Толькі, можа, некалькі месяцаў кожнае лета ў маленстве праводзіў у бабулі. Шчыра скажу, нават зараз не магу зразумець, як атрымалася, што ў падлеткавым узросце я адчуў нейкі такі голас крыві. І я стаў шукаць кнігі, што былі выдадзены на Беларусі. Прывозіў іх, чытаў. Па газетах, па часопісах, па гэтых кнігах намагаўся вывучаць. Была нейкая цяга.

*— Прабачце, мы крыху адхіліліся ад размовы. Калі Рыгу наведалі Шушкевіч і Краўчанка, яны з вамі сустракаліся?*

— Сустрэча была, скажам так, неафіцыйнай, але яны паабяцалі, што ўсё будзе зроблена, што, маўляў, мы вельмі хутка адкрыем амбасаду, а пры ёй будзе беларускі культурны цэнтр. Вось чаго нам не хапае тут — дык гэта беларускай школы. Ну, можа, хоць пачатковай. Для гімназіі ў нас тут няма людзей, трэба, каб іх прыслалі з Беларусі. Былі ў нас размовы ў Мінскім гарвыканкоме і ў Вярхоўным Савеце — калі ласка. І нават Міністэрства народнай адукацыі Латвіі абяцала, што дасць пакоі ў інтэрнатах, каб выпускнікі філфака, якія жадаюць выкладаць беларускую мову тут, прыязджалі працаваць. Не, ніхто не прыехаў.

*— Ну, дапусцім, школу адкрылі. Але ці будуць ахвотнікі ў ёй вучыцца?*

— Яны будуць у тым выпадку, калі школа набудзе вагу ў сэнсе якаснай агульнай адукацыі, не толькі ў сэнсе вывучэння роднай мовы. А зараз беларуская школа ў Рызе не вытрымае канкурэнцыі менавіта ў агульнаадукацыйным плане.

*— Якія газеты зы атрымліваеце, што чытаеце, што слухаеце?*

— У нас на базе гарадской бібліятэкі ёсць куточак, дзе мы размяшчаем беларускую бібліятэку. Хапае месца і для кніг, часопісаў, і газет. Мы выпісваем амаль усе беларускія газеты. А слухаюць нашы людзі беларускую «Свабоду». Мінскую «сетку» і БТ мы тут злавіць не можам. Больш ніякай такой інфармацыі няма. Няма і стабільных сувязей з беларускімі сродкамі масавай інфармацыі. Раней, гады два назад, пра «Світанак» было шмат артыкулаў, але, праўда, усё больш са знакам мінус. Вядома, сувязь з Бацькаўшчынай востра неабходная — хаця б у мэтах паразумення. Прычым рэгулярная сувязь, а не раз на год, калі інфармацыя вырвана. Людзі павінны мець уяўленне, як змяняецца тут этнічная сітуацыя.

## СПАДЧЫНА



Касцёл у Сар'і. Мал. Н. Орды, 2-я палова XIX стагоддзя.

# «НА БЕЛАЙ РУСІ Ў САР'І»

Вёска Сар'я, што зараз знаходзіцца ў Верхнядзвінскім раёне Віцебскай вобласці, была спадчынным уладаннем князёў Сапегаў, у 1506 годзе яе набыў надворны літоўскі маршалак Іван Сапега. На пачатку XVIII стагоддзя Аляксандр Сапега аддаў Сар'ю разам з Ідолтай у заклад смаленскаму падстолію Мікалаю Александровічу. У 1713 годзе Сар'я разам з Росіцай за 5 500 талераў бітых трапляе ў заклад да Якуба і Алены Бянетаў. У 1742 годзе Мікалай Лапацінскі, падчашы і стараста мсціслаўскі, сплаціў Бянетам залог і валодаў Сар'яй, а ў 1753 годзе ўвогуле выкупіў яе ў Аляксандра Сапегі. З гэтага часу маёнтак Сар'я стаў спадчынным уладаннем Лапацінскіх. Пасля смерці Мікалая Лапацінскага ў 1778 годзе Сар'яй валодаў яго сын Тамаш, каралеўскі шамбелян; з 1817 года—сын Тамаша Юзаф, дрысенскі маршалак; з 1839 года—сын Юзафа Ігнацій; з 1883 года—сын Ігнація Станіслаў. Напрыканцы мінулага стагоддзя ў маёнтку Сар'я існаваў прыгожы сядзібны дом з вялікім паркам і аранжарэямі, пры старой дарозе на Асвею быў пабудаваны касцёл у імя св. Марыі. У панскім доме знаходзіўся вялікі архіў, бібліятэка з некалькіх тысяч тамоў, фамільныя партрэты пэндзля Рэгульскага, цікавыя рукапісы і розныя фамільныя каштоўнасці роду Лапацінскіх.

На жаль, сёння не напісана гісторыя роду Лапацінскіх, амаль забыта гісторыя вёскі Сар'я. Паспрабуем крыху прыўзняць заслону бяспамяцтва, прасачыць некаторыя эпізоды з жыцця маёнтка, акрэсліць постаці яго былых насельнікаў.

Да нашага часу ў вёсцы Сар'я захаваўся, бадай што, адзіны помнік сівой даўніны — чырвонай цэглы неагатычны касцёл, імклівыя вежы, фіялы і шпілі якога строма ўзносяцца ў неба. Пабудаваны ў 1851—1857 гадах, сваім з'яўленнем ён быў абавязаны рамантычнай натуры Ігнація Лапацінскага і нешчаслівай гісторыі яго кахання.

1822 год стаў для сям'і Шумскіх адначасова шчаслівым і няшчасным: нарадзілася дзяўчынка, аднак пры родах памерла яе маці Марыля з Мірскіх. Як пісала ў сваім «Дзённіку»—своеасаблівай хроніцы свецкага жыцця 1815—1843 гадоў — Габрыэля Пузыня, «малая сірата, наўмысная прычына гэтага няшчасця, была ахрышчана імем сваёй маці... Была яна прыгожай, мілай, добрай, як маці, і, не ведаючы яе, была, аднак, падобна да маці ва ўсім, нават у рухах... У той жа самы час на Белай Русі ў Сар'і, уласнасці сям'і Лапацінскіх, прыйшоў на свет малы Ігнась, які стаў мужам гэтай другой Марылі, адну толькі яе кахаў у жыцці і застаўся ёй верным да смерці».

Шлюб Марысі з Ігнасем быў шчаслівым, у іх нарадзілася двое дзяцей: сын Станіслаў і дачка Соф'я. У свецкіх забавах і сямейных клопатах мінalі гады. Аднак 17 красавіка 1851 года Марыся Лапацінская памерла. Ігнась глыбока перажываў смерць жонкі і вырашыў узвесці ў Сар'і побач з яе магілай касцёл. Падмуркі касцёла былі закладзены ўжо ў ліпені 1851 года, абрад асвячэння месца зрабіў вікарый касцёла, што знаходзіўся ў суседняй вёсцы Росіца, свяшчэннік Чулдо. Па жаданню Ігнація Лапацінскага аўтарам праекта касцёла і кіраўніком будаўнічых прац стаў архітэктар Густаў Шахт, які жыў на той час у мястэчку Асвея. Сёння касцёл у Сар'і з'яўляецца адным з самых выразных узораў архітэктуры неаготыкі на Беларусі.

Зварот архітэктараў 1840—1860-х гадоў да рэтраспектыўнай готыкі і неаготыкі можна тлумачыць перш за ўсё шырокім распаўсюджаннем ідэй польскага рамантызму ў тагачасным грамадстве, актывізацыяй нацыянальна-вызваленчага руху. Жорсткай рэгламентацыі афіцыйнай архітэктуры супрацьпастаўлялася экзатычнасць і маляўнічасць вобліку збудаванняў старажытнага стылю готыкі, вялікая гібкасць і варыянтнасць сродкаў і прыёмаў формаўтварэння. Выкарыстоўваючы багацце вытанчаных, вертыкальна імклівых цагляных цяг, ніш, гранёных контрфорсаў, востраканцовых аркатур, фіял і шпіляў, высокіх стральчатых праёмаў, Г. Шахт надаў архітэктуры Сар'янскага касцёла паветраную лёгкасць і вытанчаную графічнасць.

Цэгла для касцёла была выраблена на невялікім заводзіку, які належаў І. Лапацінскаму і знаходзіўся ў адной з яго вёсак. Віртуознае майстэрства будаўнікоў, што ўзводзілі касцёл, і сёння выклікае захапленне ў кожнага, хто яго пабачыў. Дарэчы, гісторыя захавала імёны майстроў: галоўным муршчыкам Сар'янскага касцёла быў прыгонны селянін мястэчка Кубліч Лепельскага павета Іван Шарамет. Яму дапамагалі трое сялян маёнтка Сар'я — Аляксандр Емяльянаў, Міхал Ісакаў і Іван Лядак. Штодня на будоўлі працавалі таксама

(Заканчэнне на 8-й стар.).

# АДЧУЦЬ «ДЫМ АЙЧЫНЫ» Ў ПІСЬМАХ СЯБРОЎ

**Канстанцыя Буйло ўсё жыццё найбольш аберагала ад староннягa вока сваю душу, апасаючыся раскрыцца перад залішне цікаўнымі ці раўнадушнымі. Яна адмаўлялася ад сустрэч з журналістамі, калі яны бесцырымонна ламаліся ў яе мінулае, не лічачыся з яе жаданнем і просьбамі. Скрытнасць Канстанцыі Антонаўны сталася адной з прычын, што сёння беларусы так мала ведаюць пра старэйшую нацыянальную паэтку, сучасніцу Янкі Купалы, Якуба Коласа, Змітрака Бядулі, Максіма Багдановіча. Супрацоўнічаючы ў «Нашай ніве», яна ведала братоў Луцкевічаў, да яе з увагай ставіўся Вацлаў Ластоўскі. І, паехаўшы працаваць у Полацк, Канстанцыя Антонаўна пасылала ў Вільню паштоўкі на імя Ластоўскага. Але ж быў час, калі такое сяброўства маглі паставіць у віну, і жонка «ворага народа» апынулася б таксама на поўначы, дзе ў 30-х гадах загінуў яе муж Віталь Калечыц. Канстанцыю Буйло, як і мільёны людзей, маўчаць прымушаў страх, і не толькі за сябе, а за сына, за блізкіх, якім неасцярожным словам яна магла прынесці шкоду. Калі яе прасілі расказаць пра сябе, яна адказвала, што ўсё яе жыццё ў яе вершах. Так яно і было. Лепшыя творы паэтэсы вельмі асобасныя, у іх адбіліся радасці і складанасці няпростага жыцця.**

**І ўсё ж Канстанцыя Антонаўна была чалавекам шчырым і адкрытым, у яе было многа сяброў, з якімі яна перапісвалася на працягу многіх гадоў. У пісьмах яна не хавае сваіх пачуццяў. У іх пастаянная туга ад разлукі з Беларуссю, клопат пра блізкіх, творчая незаспакоенасць.**

**Прыязныя цёплыя адносіны звязвалі мяне з Канстанцыяй Антонаўнай прыкладна дзесяць апошніх год яе жыцця. Яна згадзілася, каб пра яе была напісана кніжка, і ў 1978 годзе ў «Бібліятэчцы «Голасу Радзімы» выйшла невялікая кніжка «Люблю» пра жыццё і творчасць паэтэсы. У 1981 годзе пры ўдзеле рэдакцыі нашай газеты, з дапамогай пісьменнікаў Максіма Танка, Ніны Тарас, Анатоля Вярцінскага выйшла двухтомнае выданне твораў Канстанцыі Буйло. Для паэтэсы гэта была апошняя вялікая радасць, завяршэнне шматгадовай барацьбы з выдавецтвам. У маёй перапісцы з Канстанцыяй Антонаўнай — адбітак яе перажыванняў, звязаных з гэтым выданнем.**

**Пісьмы К. Буйло, якія падрыхтаваны да друку, траплялі да мяне рознымі шляхамі. Лісты маці перадаў сын Канстанцыі Антонаўны Яўген Калечыц, праз яго я атрымала лісты да Іны Антонаўны, сястры паэтэсы, да іншых сваякоў. У архіве Канстанцыі Буйло захоўвалася і некалькі яе пісьмаў да Уладзіславы Францаўны Луцэвіч, жонкі Янкі Купалы, лепшай сяброўкі на працягу ўсяго жыцця.**

**Цікавай была мая сустрэча з Марыяй Канстанцінаўнай Хайноўскай, якая была чалавекам блізкім да дому Купалы, працавала ў Саюзе пісьменнікаў. Яна ведала К. Буйло яшчэ з даваенных часоў, але найбольш інтэнсіўнай стала іх перапіска пасля смерці Уладзіславы Францаўны, калі Марыя Канстанцінаўна звязвала паэтэсу з Беларуссю, з пісьменніцкім асяроддзем. Канстанцыя Антонаўна перапісвалася з Соф'яй Захараўнай Лыньковай, Нінай Тарас, Эдзі Агняцвет, з іншымі пісьменнікамі, якія і перадалі мне пісьмы К. Буйло.**

**Усе яны публікуюцца ўпершыню, і мне хацелася б, каб яны былі прачытаны з разуменнем і спагадай, бо пісаліся яны блізкім людзям, тым, каму давярала, гатова была прыйсці на дапамогу і ад каго сама чакала падтрымкі.**

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

Родны мой Жанюрка!*
(...)

У мяне 11-га сакавіка г.г. быў вельмі ўрачысты і знамянальны дзень. Нават пазваніў мне старшыня Саюза савецкіх пісьменнікаў т. Лынькоў і паведаміў, што вечарам адбудзецца нарада Саюза пісьменнікаў, на якой будуць прымаць мяне і прасіў мяне быць на нарадзе. Я, вядома, выказала задавальненне, папракнуўшы яго, што прыём занадта запозніўся. Ён сказаў, што за ўвесь гэты час Саюз збіраўся толькі аднойчы. Маё пытанне было пастаўлена на парадак дня, але вырашана не было, таму што не маглі дазваніцца да мяне. У 7 гадзін адбылася нарада, на якую сабраўся не толькі прэзідыум Саюза, але і ўсе прысутныя ў Маскве члены Саюза. У вельмі ўрачыстай абстаноўцы адбылося пасвячэнне мяне ў пісьменнікі. Сход адкрыў Лынькоў, паставіўшы першым пытаннем маё. Аб сацыяльным маім паходжанні гаварыла Уладка.** Аб маім літаратурным шляху выступалі многія, зусім незнаёмыя мне тады, і гаварылі з веданнем справы. Паэт-ардэнаносец Глебка расказаў аб маёй творчасці на тэмы Айчыннай вайны, паведаміўшы, што ідзе ў бліжэйшым нумары часопіса «Беларусь» мая паэма, якой дадзена высокая ацэнка як эмацыянальнай, з яркімі вобразамі, прасякнутай глыбокімі пачуццямі партызанскай паэме. Выступалі кампазітары. Гаварылі аб тым, што многія мае вершы перакладзены імі на песні, якія спявае Беларусь. Усе выступаўшыя паўтаралі, што мне даўно павінна было быць прадастаўлена належнае месца ў Саюзе пісьменнікаў. Галасаваў спачатку прэзідыум—адзінагалосна. Галасавалі ўсе члены Саюза—адзінагалосна. Галасаванне скончылася авацыяй. Пасля ўстаў старшыня Лынькоў і павіншаваў мяне, горача паціскаючы мне рукі. За ім пачалі паціскаць мне рукі ўсе члены прэзідыума і ўсе іншыя таварышы. Сакратар Броўка, паэт, двойчы ардэнаносец, кпіў: «А, цяпер ты ў маіх руках. Я павінен аформіць цябе, забяспечыўшы білетам і літэрнай карткай «Б». Я засмяялася: «Я шукала ў вас маральнай падтрымкі, а вы пад яе падводзіце матэр'яльную базу».—«Дух без цела мёртвы ёсць,—заявіў Броўка.—Паэзія павіна сілкавацца, каб жыць».

Атмасфера стала цёплай і дружалюбнай. Слухалі чытанне п'есы Кучара аб дзецях партызана Міная. П'есу крытыкавалі ў дэталях, але ўвогуле адобрылі. 2-гі Беларускі Дзяржтэатр прыняў яе да пастаноўкі. Учора дома ў мяне святкавалі гэтую ўрачыстасць. Была Іна, Уладка, Глебка, Броўка і іншыя. Сёння мяне павіншавалі на рабоце. Словам, усё пакуль добра, аб чым табе і дакладаю. Цалую цябе вельмі моцна і прашу мне пісаць. Яшчэ раз цалую вельмі моцна.

Твая мама.

*Масква, 13/III-44 г.*

* Яўген Віталевіч Калечыц — сын К. Буйло.

** Уладзіслава Францаўна Луцэвіч.

Родная, дарагая мая Уладынька!*

Атрымала тваё пісьмо «на машынцы», прачытала з задавальненнем, што ты задаволена сваёй паездкай у Ленінград, а з яшчэ большым—тое, што ты збіраешся ў Маскву. Вельмі хочацца цябе пабачыць. Газеты атрымліваю, дзякуй табе, мая родная. Быў у мяне некалькі разоў Міхась Ганчарык, ён заўсёды пасылае табе вельмі сардэчныя прывітанні. Заходзіў да мяне, якраз у дзень, калі быў Ганчарык, Лужанін. Абрадавалася яму надзвычай. Як быццам нехта вельмі родны прыехаў «з дому». (...)

Мае ўсе жывыя і здаровыя. У сувязі з новым законам аб прапісцы прыязджаючых на працягу 24 гадзін —дом адразу апусцеў. Жывём мы толькі з маім Віцюшам. Жэня паехаў да жонкі на дачу (яна ў нас не прапісана). Люцік і Людачка—на Лугавую, а мы кейфуем удваіх на ўсю кватэру.

Настрой у мяне дрэнны ў сувязі з нявысылкай нікім грошай. Не ведаю, можа яшчэ заплацяць па 1/10. Гэта таксама можа стацца—тады і чакаць няма чаго. Гэта перашкаджае нават пісаць. Здаецца, што ні я, ні мая творчасць нікому не патрэбны, а гэта не ўзнімае настрою да творчасці. Інка і Віцюша шлюць табе масу самых сардэчных пажаданняў і сардэчныя прывітанні. Пішы мне часцей, а яшчэ лепш—прыязджай, дарагая, вельмі хачу цябе бачыць. Маё сардэчнае прывітанне ўсім нашым. Цалую цябе я пяшчотна. Твая заўсёды Костка.

*Масква, 28/I-48 г.*

* Уладзіслава Францаўна Луцэвіч.

Мілая мая Іначка* і ўсе іншыя, таксама мае мілыя!

Атрымала тваё пісьмо і вельмі ўзрадавалася, што ў вас усё добра, усе здаровыя, і шлю вам усім кранальныя прывітанні. У мяне вялікая падзея, якая вельмі мяне ўсхвалявала. Сабраўшыся з духам, я нядаўна пазваніла следчаму Мальцаву, які вёў судовую справу Віталя. І ўяві маё хваляванне, калі ён паведаміў мне, што 29-га ліпеня, у панядзелак, справа разбіралася ў Маск.Гар.Судзе і суд вынес Віталю поўнае апраўданне. Ён па тэлефоне вельмі цёпла павіншаваў мяне з тым, што ўсё ў маёй заяве пацвердзілася. А сёння я ўжо заказным пісьмом з Гарсуда атрымала за пячаццю наступнае:

«ДАВЕДКА.

Справа па абвінавачванню Калечыца Віталя Адольфавіча перагледжана Прэзідыумам Маскоўскага Гарадскога суда 29 ліпеня 1957 г.

Пастанова Калегіі ОГПУ ад 28 верасня 1933 года адменена, а справа ў адносінах Калечыца Віталя Адольфавіча, 1890 г. нараджэння, справаводствам спынена за недаказальнасцю абвінавачвання.

Старшыня Маскоўскага Гарадскога Суда Л. Громаў».

І нават фармулёўка лепшая, чым у першым атрыманым мною рашэнні аб рэабілітацыі. Я, дарэчы, выказала сваё абурэнне ў следчага, што рэабілітацыя выказана так няясна. Я цэлы дзень праплакала і ад радасці, і ад гора. Дваццаць пяць гадоў неслі мы цяжар гэтай незаслужанай заганы. Тры разы здымалі з работы мяне, тры разы Жэню. І ўсё ж праўда перамагла. Ганаруся гэтым. Светлая памяць Віталя ачышчана ад бруду. Ён чысты і цудоўны, як і быў у жыцці. А тыя, хто ўтоптваў яго ў бруд, загінулі, і іх памяць ачышчана не будзе, не! Мальцаў сказаў, што я магу патрабаваць, каб мне вярнулі ўсё, што ўзялі ў час арышту, што я магу патрабаваць даць мне ўсе даныя аб ім— дзе ён памёр, дзе пахаваны, дзе ён жыў і як. Заўтра пайду на Лубянку за гэтымі звесткамі. Ты і не ўяўляеш сабе, Іначка, як паўплывала на мяне ўсё гэта. Вельмі добра, што ўвесь час, цэлыя два дні са мной быў Жэня. Ён нават стаяў у кабіне пры мне, калі я званіла следчаму. Ён хацеў сам пазваніць яму, бачачы, што я хвалююся. Але я яму не дазволіла. І вось. Я доўга не званіла, а тут не магла не званіць. Яшчэ да прыезду Жэні я знайшла тэлефон Мальцава і вырашыла званіць. Адзін дзень—не дазванілася. Назаўтра пайшла зноў і дазванілася. Размова была кранальна цёплай. Мальцаў усё мне падрабязна расказаў. (...) Выкрыта поўная неабгрунтаванасць абвінавачванняў, выкрыта з поўнай відавочнасцю — па яго заяве. Збіраліся ўсе даведкі, правяралася кожнае слова, і нідзе не выяўлена ніводнага факта, ніводнага дакумента, якія пацвярджалі б віну Віталя ў чым бы там ні было.

Я хаджу як п'яная. Гэта нешта, што перавышае сілы чалавечыя. Праўду не закапаеш. Яна выйдзе наверх пры ўсіх акалічнасцях. Шкода, што позна. Шкода, што Віталя ўжо няма і ён не можа адчуць шчасця волі і ачышчэння ад бруду подлых людзей. Няхай зямля ляжа на іх каменем!

Фестываль ідзе. Я заматалася. Цэлымі днямі на стадыёнах, у парках, дзе адбываюцца канцэрты і спаборніцтвы. Стамілася нават. Пішы, Іначка. Як вы там жывяце?

Цалуем усе вас усіх моцна.
Я цалую таксама.

Твая Костка.

*Масква, 7/VII-57 г.*

* Іна Антонаўна, сястра К. Буйло.

Дарагая мая Марыйка!*

Атрымала тваё сумнае пісьмо, і сэрца аблілося крывёю. Мне вельмі балюча ад свядомасці, што Уладка так сур'ёзна хворая і не шкадуе сябе ніколькі, трацячы рэшту сваіх сіл са шчодрасцю багацея, які валодае невычэрпным запасам гэтых сіл. Што гэта? Няведанне аб сапраўдным становішчы спраў? Абыякавасць да магчымага зыходу? Захапленне работай да самазабыцця? Усё гэта трагічна, паколькі вядзе да гібельнага выніку. Няма ні дня, ні мінуты, ні гадзіны, каб я пра яе не думала з такім болем, з такой трывогай, што я табе гэтага перадаць не магу. Бора і ўсе нашы стараюцца мяне ўгаворваць, што, маўляў, непазбежнага не мінаваць, але гэта яшчэ больш мяне хвалюе, і я зусім страчваю спакой. Я не думала нават, што такая моцная мая сувязь з ёю. Як быццам усе яе пакуты рыкашэтам б'юць па маіх нервах, а я хварэю разам з ёй, толькі душэўна. Іду на далёкія прагулкі адна, усё перажытае паўстае ў памяці, быццам нехта круціць плёнку ўсяго майго жыцця перад вачыма. Вялікае месца займае Уладка на гэтай плёнцы асабліва ў маладыя гады мае. І ўсё жыццё я заўсёды, пры ўсіх абставінах помніла, што недзе ў мяне ёсць Уладка, мая апора, мая гавань, мая сіла, верны сябра і таварыш. Няхай гэта была мая выдумка. Няхай я ў гэтыя гады рэдка сустракалася з ёю, не атрымлівала і не пасылала пісьмаў, не мела ніякай дапамогі рэальнай. Адно ўсведамленне, што яна існуе на свеце, надавала мне мужнасць пераносіць усе нягоды і ўсё гора, якія шчодра выдзеліў мне ў долю лёс. Вось цяпер я і ўспамінаю ўсё перажытае, і іншы раз міжвольны стогн вырываецца з грудзей, і я спалохана азіраюся, ці не чуюць яго прахожыя, ці не здзіўляюцца такому выяўленню пачуццяў жанчыны, якая брыдзе адзінока ў глыбокай задумлівасці. Уладка, Уладка. Занадта многа звязана з ёй і добрага, і цяжкага, і дрэннага, але адно было нязменным—маё шчырае і глыбокае пачуццё прывязанасці да яе. А яна была ўсякай. А я помню яе, больш правільна хачу помніць, толькі такой: па-мацярынску чулай, арганічна звязанай са мной, якая любіць мяне. Яна, як маці ў мінуты свае добрыя, унікала ў маё жыццё як ніхто, умела так глыбока закрануць самыя набалелыя пытанні, так разумна развесці бяду цяжкіх сумненняў і душэўнай трывогі, быць надзіва сваёй, роднай, блізкай.

Вось таму я не ўяўляю сабе існавання свайго пры думцы, што не будзе Уладкі, не будзе... У маёй свядомасці не ўкладваецца такое. І ва ўсіх маіх пісьмах я як апантаная ўнушаю ёй волю да пераадолення хваробы. Як заклінанне гучыць мая мальба, якая, пераведзеная на простую мову, гучала б: жыві, Уладка, дзеля ўсяго святога, жыві, родная, жыві ў што б там ні было! Мне страшна без цябе. Увесь свет апусцее для мяне, калі не стане цябе, мая дарагая Уладка! Гэта ўжо псіхоз, вядома, але я ва ўладзе яго і нічога не магу з сабой зрабіць. Яна ўвесь час скардзіцца на адзіноту. Я так рада, што ты бываеш у яе, дарагая Марыечка. Вядома, ніхто з нас ёй памагчы не можа. Яна піша мне, каб я да яе прыехала. Але я ж ведаю, што праз гадзіну пасля майго прыезду я ўжо буду стамляць яе, якія ўжо госці ў такім стане. Бедная мая Уладка! Усе людзі ў такім становішчы адзінокія. Я б рукі пад яе падклала, душу б ў яе ўдыхнула, а што я магу зрабіць. Толькі хадзіць вось так у поўнай разгубленасці, заходзячыся ад болю. Вось упершыню вырвалася тое, чым поўная я цяпер, Марыечка! Дзякуй табе за часопісы. Надрукаваны ў ім толькі першы абзац майго верша, і ён, абкарнаны, бязглузды, гучыць дзіка. Як яны маглі так знявечыць мой любімы верш! Бессаромныя людзі!

Цалуем вас сардэчна. Вашы Костка і Бора.

*Масква, 10/I-60 г.*

* Марыя Канстанцінаўна Хайноўская.

# ДУХМЯНЫ ЧАЙ МАКАРА КРАЎЦОВА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

У бацькі Макара — Мацвея Касцевіча налічвалася аж 36 дзесяцін ворнай зямлі. У гаспадарцы было шмат жывёлы: два валы, пара коней, дзевяць дойных кароў, каля дваццаці авечак. Шматлікай сям'і Касцевічаў хапала работы. Разам з братамі працаваў і Макар, хаця гаспадарка яго не вельмі цікавіла. Найбольш цягнула да кніжак, да навукі.

Макар Краўцоў закончыў царкоўнапрыходскую школу, якая знаходзілася ў вёсцы Галавачы. Пазней будучы паэт часта ўспамінаў, што ў гэтай школе быў вельмі строгі настаўнік па прозвішчы Ваўчок. Праводзіў цікавыя ўрокі спеваў. За непаслухмянства біў вучняў смычком па вушах. Добра іграў на скрыпцы. Ад яго і Макар навучыўся іграць на гэтым інструменце. Настаўнік Ваўчок падрыхтаваў Макара да паступлення ў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю. Пасля заканчэння яе Макар некаторы час працаваў настаўнікам у вясковай школе, але ў 1915 годзе яго прызвалі ў царскую армію і накіравалі на Паўночна-Заходні фронт.

Перад вайной бацькі Макара з дзецьмі выехалі ў Расію, былі ў бежанстве ў Казанскай губерні ў горадзе Свіяж, затым у сяле Семікееве. Бацькі з бежанства не вярнуліся: спачатку памёр Мацвей, затым і маці — Марыя. У 1922 годзе ў сваю вёску Баброўню вярнуліся браты Касцевічы: Гаўрыла, Сямён са сваімі сем'ямі і малодшы Бенадзікт. Вёска Баброўня аказалася пад Польшчай. Браты зямлю падзялілі паміж сабой, кожнаму па 12 дзесяцін, і пачалі гаспадарыць.

Абарона Случчыны трывала больш пяці тыдняў, але сілы былі няроўныя. 28 снежня 1920 года паўстанцкая дывізія з боем перайшла польска-савецкую дэмаркацыйную лінію і была палякамі абяззброена. Заходняя Беларусь з 4 мільёнамі жыхароў засталася часткаю Польшчы. Урад БНР, узначалены П. Крэчэўскім і В. Ластоўскім, быў змушаны выехаць за мяжу, у Літву. Макар Краўцоў пасля падаўлення Слуцкага паўстання на радзіму ў вёску Баброўню не вярнууся. Ён падаўся ў Вільню, якая таксама аказалася пад Польшчай. Там уладкаваўся на работу. Да яго прыехала і жонка Ганна Станіславаўна. Там яны жылі да 1939 года, да арышту М. Краўцова.

Знаходзячыся ў Вільні, Макар Краўцоў не забываў сваёй роднай Баброўні, братоў, блізкіх, знаёмых. З імі вёў перапіску, асабліва з пляменнікам Платонам Касцевічам, у якога захавалася шмат лістоў Макара. Мне давялося з гэтымі лістамі Макара Краўцова пазнаёміцца, прачытаць іх. З перапіскі відаць, у якім матэрыяльным становішчы жыў паэт-нашанівец пры панскай Польшчы. Ён амаль у кожным лісце просіць у пляменніка Платона грашовай дапамогі. Вось яго ліст да Платона ад 12 сакавіка 1939 года: «Дарагі Платон! Вялікі табе дзякуй за прысланыя 9 лютага сто злотых. Шкада толькі, што ты ня любіш падробней пісаць, як там выглядаюць справы... На жаль, і я, хоць прафесіяй пісьменнік, нічога цяпер не пішу. Няма куды. Душная атмасфера дый годзі. Прыдзецца мусі пераключыцца на іншую мову ды шрайбаваць артыкулы ў расейскія або ў польскія штодзённікі. На хлеб, на ваду мусіць чалавек зарабляць. А тут яшчэ хваробы чапляюцца. Жонка хварэе, і сам прастуджаны. Ужо больш як тыдзень губы парэпаны, ламае нейкая ліхаманка, прымаю хіну. П'ю маліну. А ў хаце ня ўседзіш, бяда выганяе, як таго ваўка, на здабыванне хлеба. З канца месяца сакавіка прадбачыцца работа... А тымчасам мушу і зноў да цябе звяртацца. Было б добра, каб выслаў ты мне яшчэ якіх златовак 50. Калі там для мяне нічога не маеш, дык можа скамбінуй як, пазыч. Адашлю з падзякай, як толькі зараблю. Гэта — у горшым выпадку. Калі ж там нешта для мяне яшчэ магчыма выдрапаць, дык націсні, дзе можна... Бяды і патрэбаў у мяне да зарэзу. Каля вуха гумзяк пагражае ростам. Цяпер ужо як добрае зерне бобу. Знаёмы доктар аглядаў. Сказаў, што гэта жыравік. Патрэбна пусцяковая аперацыя. Аднак такой трэба асцерагацца, каб праз неасцярожнасць не паперарэзваць нэрваў... У лютым купіў сабе касцюмчык, бо старое ўсё панасілася да апошняга. Гэткія вось мае справы. Зрабі, што можаш, і пішы мне... Паклон ад мае жонкі ўсім родным і знаёмым. Твой дзядзька Макар».

Вось другі ліст Макара Краўцова да таго ж пляменніка Платона Касцевіча (Вільня, 25 красавіка 1936 года): «Дарагі Платон! Дзякую за прысланыя перад Вялікаднем 10 злотых. Буду ўдзячны, калі прышлеш яшчэ, бо тут, тымчасам, тугавата...» Далей просіць пляменніка Платона Сямёнавіча, каб ён прадаў траву з яго долі, што на сенажаці, і прыслаў яму грошай, бо яны вельмі патрэбныя. З прачытаных лістоў відаць, у якім цяжкім матэрыяльным становішчы даводзілася жыць Макару Краўцову і яго жонцы пры Польшчы. А калі настала дыктатура Пілсудскага і пачаўся санацыйны рэжым, Макара Краўцова не адзін раз арыштоўвалі і саджалі ў турму.

Яшчэ горш стала пасля вызвалення Заходняй Беларусі ад панскага ярма. Жорстка расправіліся з М. Краўцовым браты-вызваліцелі. Восенню 1939 года, успамінае яго жонка Ганна Станіславаўна, у Вільні ў іх кватэру ноччу ўварваліся ў вайсковым адзенні людзі. Зрабілі вобыск. Усё ў хаце перавярнулі, перабралі ўсе кніжкі, паперы. Нечага шукалі, а потым забралі з сабой Макара Мацвеевіча.

Цень палітычнай падазронасці ўпаў не толькі на жонку паэта, але і на яго братоў, асабліва на малодшага брата — Бенадзікта, які працаваў настаўнікам у Карашаўскай пачатковай школе на Скідальшчыне. Дачка яго Іраіда Бенадзіктаўна, якая зараз жыве ў Гродне, расказвала мне, як бацька Бенадзікт Касцевіч па дарозе ў школу быў арыштаваны. Яго судзілі як ворага народа. Далі 25 год турэмнага зняволення. Вярнуўся толькі пасля смерці Сталіна. Два гады нерухома праляжаў у пасцелі ў доме дачкі Іраіды і памёр.

Пра лёс самога Макара Краўцова доўгі час ніхто не ведаў, аж пакуль не прыйшоў у Баброўню нейкі чалавек, які разам з ім сядзеў у турме ў Беластоку. Той расказаў, што Макара Краўцова закатавалі на допытах у турме. Дзе ён знайшоў свой вечны прытулак, ніхто не ведае. Так закончыў сваё гаротнае жыццё паэт, які горача любіў сваю Бацькаўшчыну, родную вёсачку, раку Нёман і свой стары горад Гродна, Горадзень, якому прысвяціў верш:

**Ізноў я тут. Цябе вітаю,**
**Мой родны Горадзень стары.**
**Ізноў па вуліцах лятаю**
**Да самай позняе пары.**
**З цябе нацешыцца няможна**
**Пасля разлукі ў тры гады!**
**Як міла плітачка тут кожна,**
**Дамы, бульварчыкі, сады.**
**Хрыбты мастоў пераламаных,**
**Ахвяры скончанай вайны.**
**Шкада мне вас, параскіданых,**
**Ўдалыя Нёмана сыны!**
**І ты — Нямога Пасяджэння**
**Магутны замак — як жывы!**
**Праб'е часіна адраджэння —**
**Ізноў ты, мілы, загудзеш!.**

Жывучы ў Вільні, Макар Краўцоў не забываў роднай Баброўні, штогод прыязджаў сюды. Тут над рэчкай Котрай адпачываў, праводзіў вольны час, набіраўся сілы для творчай работы. Пляменніца Макара Краўцова Надзея Юльянаўна ўспамінае: «Я часта бегала да іх. Мне цікава было слухаць, што яны гаворалць. А гаварылі яны, дзядзька Макар і яго жонка Ганна, вельмі цікавыя гісторыі. Я ім насіла малако і свежы хлеб. Памятаю, як іх усе чакалі. Пыталіся, калі яны прыедуць з Вільні ў Баброўню. Асабліва чакалі іх хлопцы і дзяўчаты: вечарамі, бывала, калі людзі скончаць свае дзённыя клопаты, Макар са скрыпкай, што зрабіў Платон Касцевіч, якая ў яго захавалася да гэтага часу, сядаў на лавачку каля хаты. Да яго падыходзіў Міхась Касцевіч (будучы паэт Міхась Васілёк) са сваімі сёстрамі Надзяй і Глашай, хлопцы і дзяўчаты і пачыналі спяваць беларускія песні, а дзядзька Макар на Платонавай скрыпцы ім выцілінгваў, падыгрываў».

У Баброўні Макар Краўцоў праводзіў асветніцкую работу. Пад яго кіраўніцтвам праходзілі вечары, ставіліся спектаклі, так званыя «камедыйкі», на якіх ён выступаў і чытаў на беларускай мове свае вершы, не гледзячы, што польская паліцыя забараняла. Да Макара прыходзілі яго браты: Габрыэль, Фёдар, Антон, Сямён, настаўнікі, якіх у той час налічвалася ў Баброўні сем чалавек. З іх быў створаны гурток мастацкай самадзейнасці. Усё гэта выдатна ўплывала на нацыянальную самасвядомасць беларусаў, у тым ліку і на будучага паэта Міхася Васілька, на тое, што ён пачаў пісаць свае творы на роднай мове.

Скідальчане ганарацца сваёй Баброўняй, што дала двух паэтаў, Макара Краўцова і яго пляменніка Міхася Васілька, але, на вялікі жаль, гэта слаўная вёсачка некалі трапіла ў спіс неперспектыўных населеных пунктаў. У выніку гэтага людзі пакінулі яе, падаліся ў гарады шукаць сабе лёгкага хлеба. У Баброўні зараз не пазнаць тых мясцін, дзе некалі стаялі хаты, у якіх жылі і пісалі свае творы паэты Макар Краўцоў і Міхась Васілёк. Ад іх засталіся толькі падмуркі, і тыя пазарасталі крапівою, бур'яном. Вёска анямела, не чуваць у ёй дзіцячых галасоў, даўнейшых галасістых песняў, людской гамонкі.

Макар Краўцоў друкавацца пачаў у 1918 годзе. Што датычыць яго літаратурных твораў, дык яны ніколі не былі сабраныя ў адным выданні, у адной кніжцы. Макар Краўцоў супрацоўнічаў у беларускіх газетах, у часопісе «Маланка». Пісаў вершы, празаічныя творы, перакладаў з іншых моў на беларускую. Ён пераклаў з рускай мовы на беларускую творы Лермантава, Талстога, Гогаля, Купрына, твор Н. Рубакіна «Вялікія войны і барацьба з вайною». З польскай мовы на



беларускую — «Версальскі трактат». Пад яго рэдакцыяй выйшаў «Беларускі каляндар на 1925 год» (выданне Беларускага Грамадскага Сабрання ў Вільні).

Свае творы Макар Краўцоў друкаваў пераважна ў газеце «Наша ніва» і ў часопісе «Маланка». Вершы пісаў на розную тэматыку, у тым ліку і інтымную лірыку. Вось адзін з іх, напісаны 14 чэрвеня 1918 года:

**РАМАНС**

**Ціха спаў стары лес недалёка,**
**На балоце кулік чыркацеў.**
**Тэй вясны была цёмная ночка,**
**Што не вернецца зноў, каб хацеў.**

**Хутка недзе схавалася вёска,**
**Ўсё гусцела й гусцела імгла;**
**Твая мілая, доўгая коска**
**Чорнай стужкай на плечы лягла.**

**Яшчэ зоркамі вочкі свяцілі.**
**Шчасце — моладасць грэла душу...**
**Тыя думкі, што нас засмуцілі,**
**Я дагэтуль, як шчасце, нашу.**

**Нас нядоля ціхая злучыла**
**І ў наплыве сляпога чуцця**
**Ўсю атруту пазнаць навучыла...**
**Дый заплакала ты, як дзіця.**

**Ў беднаце мы абое стагналі,**
**Як ад нейкай хваробы-чумы,**
**Ніякога ратунку не зналі,**
**Век галодныя, бедныя мы!**

**Было жудасна нам сярод ночы,**
**Лёд нядолі застыў каля нас.**
**Ты, як ангел, мне глянула ў вочы**
**І пачула: «Расстацца нам час...»**

Беларуская пісьменніца Зоська Верас успаміналa: «З жонкай жылі вельмі бедна. Усё шукаў работы, нідзе стала не працаваў...» Адным словам, быў беспрацоўным, асабліва, калі жыў у Вільні. Знаходзячыся ў вельмі цяжкіх матэрыяльных умовах беспрацоўя, Макар Краўцоў у думках пераносіўся ў мінулае, успамінаў у вершы «Дзе» свае юначыя, бестурботныя гады:

**Дзе вы, цудоўныя казкі дзяцінныя,**
**З ясным спакоем вясны!**
**Дзе вы, чароўныя годы бязьвінныя.**
**Шчасьця мінулага сны!**
**Матчынай ласкі уцеха прытульная,**
**Звону царкоўнага гук!**
**Ўдзень з кампанамі забава агульная,**
**Радасьць тых школьных навук!**
**Дзе ты, далёкая воля нязмерная,**
**Зорка бясклопатных дзён!**
**Гутарка дзеда старога вячэрняя**
**Пра скасаваны прыгон!**
**Усё адыйшло так далёка ў мінулае,**
**Зноў не паўстане яно!**
**Моцна сьпяць дзедавы косьці бясчулыя,**
**Дзе кампаны — ня чутно...**

**(Беларускі каляндар на 1925 год. Вільня).**

У 3-м выпуску III тома «Беларусаў» заснавальнік беларускага мовазнаўства і філалогіі Я. Карскі пасля падрабязнага разгляду важнейшых твораў беларускіх пісьменнікаў пачатку XIX стагоддзя і да 1921 года прыводзіць і «Матэрыялы для слоўніка беларускіх пісьменнікаў апошняга часу». У «Матэрыялах» Я. Карскі знаёміць нас з 203 пісьменнікамі апошняга часу і дае кароткі агляд творчасці, у тым ліку і творчасці Макара Краўцова.

Вядомы англійскі вучоны Арнольд Макмілін у сваёй кнізе «Гісторыя беларускай літаратуры» не выпадкова назваў Макара Краўцова перспектыўным паэтам, на творчасць якога значны ўплыў зрабіў беларускі фальклор. Але неабходна сказаць, што яго жыццёвы лёс, адзіноцтва, туга, праца дзеля кавалка хлеба не далі поўнасцю раскрыцца яго таленту. У большасці яго творы адзначаюцца даволі высокай паэтычнай культурай, з'яўляюцца значным набыткам беларускай паэзіі.

Асоба Макара Краўцова мяне даўно цікавіла, таму што аб ім не было амаль ніякіх звестак. Сучасныя літаратуразнаўцы абміналі імя Макара Краўцова. Каб сабраць неабходныя звесткі пра паэта-нашаніўца, я не адзін раз пабываў на яго радзіме ў вёсцы Баброўні. Пазнаёміўся з яго сваякамі, знаёмымі, блізкімі. Асабліва з сынам старэйшага брата Макара Краўцова — Платонам Касцевічам. Цікавы ён чалавек. Пераўжыў не адну вайну. Пры паляках давялося пакаштаваць і турэмнага хлеба, за адмову служыць у польскай арміі два гады адседзеў у турме на Антаколі ў Вільні. З усіх пляменнікаў ён для Макара Краўцова быў самым блізкім чалавекам. Дапамагаў свайму дзядзьку маральна і матэрыяльна, пасылаў грошы. Ён быў добрым гаспадаром. У яго, як кажуць, быў хлеб і да хлеба. Каля хаты стаялі вуллі, звінелі пчолкі. Трэба было іх даглядаць, але ён знаходзіў час і на іншы занятак — майстраваў скрыпкі. На адной такой саматробнай скрыпцы і іграў на вечарах у Баброўні Макар Краўцоў. Яна захавалася ў Платона Сямёнавіча да сённяшняга дня. Апрача таго, Платон Сямёнавіч з'яўляецца знаўцам лекавых траў. Збірае зёлкі, з якіх вясною і летам нарыхтоўвае для сябе і сваіх знаёмых порцыі духмянага, вядомага толькі ў адной Баброўні чаю. А сакрэт нарыхтоўкі духмянага чаю Платон Сямёнавіч пераняў ад свайго дзядзькі Макара Краўцова. Складаецца ён аж з дванаццаці кампанентаў розных кветак і траў. Вось і я ўдастоіўся атрымаць у падарунак такога духмянага чаю. Не толькі сам заварваю яго і п'ю, але і частую сваіх знаёмых, успамінаючы добрым словам Платона Сямёнавіча і вынаходцу духмянага чаю — Макара Краўцова.

**А. ЦЫХУН,**
**заслужаны настаўнік Рэспублікі Беларусь.**

# НА МЯДЗВЕДЖАЙ ГАРЫ

Мядзведжую гару відаць здалёку. Хоць і лесам паабапал акружана, лесам высокім, векавым. Толькі з аднаго боку больш пакаты яе край мяжуе з прасторным, неабсяжным полем.

Але з якога боку ні глянь, хоць нават з самай лясной глыбінкі, вяршыню яе абавязкова ўбачыш.

І стала мядзведжая гара паступова нейкім неад'емным атрыбутам наваколля. Здаецца, не было б яе тут, дык не хапала б у асяроддзі чагосьці галоўнага, перад чым усе іншыя акалічнасці губляюцца і трацяць сэнс.

Мядзведжая гара заўсёды першай нагадвала аб набліжэнні навальніцы ці завеі. І калі глухі зацішны лес, што акружаў яе, нічога яшчэ не адчуваў сваёю магутнай сцяною і панура маўчаў, вяршыня гары ўжо ўзрушана пагойдвала тонкімі ствалікамі асін, што згіналіся пад настойлівымі подыхамі непагадзі, прадасцярожліва шапацела сухой травою. І глядзець на яе тады было не зусім прыемна, нават крыўдна. Нейк само сабою асэнсоўвалася гэта з набліжэннем стыхіі, быццам сама гара была вінавата ў гэтым, быццам яна наклікала сюды бяду. Хоць хутчэй за ўсё было наадварот, і вінаваціць гару было нельга: яна ўсяго толькі папярэджвала наваколле аб небяспецы.

Але бывалі і іншыя часіны. Калі раптам прагляне пасля доўгіх зацяжных дажджоў скрозь хмарак жаданае сонейка, то яно ў першую чаргу таксама весела заіграе ў кронах невялікіх дрэў на самай яе вяршыні. І тады на гару глядзелася зусім з іншым пачуццём — добразычліва, з удзячнасцю за набліжэнне добрага надвор'я.

Ну і, канешне, з асаблівай нецярплівасцю і надзеяй даводзілася пазіраць на яе ў канцы зімы. Бо надараецца той час, калі зімовыя халады ўжо парадкам надакучылі, а вясна ўсё чамусьці затрымліваецца. А людзі, звяры і птушкі — усё жывое чакаюць і чакаюць яе. А яна ўсё не прыходзіць.

Ды вось у нейкі момант сонца засвеціць ярчэй звычайнага, прыгрэе, і па адхону гары весела заскачуць на снезе сонечныя зайчыкі. А на самай яе вершаліне снег раптоўна прападзе, утварыўшы суцэльную рыжую «шапку». З кожным днём абрысы гэтай «шапкі» змяняюцца, яе няроўныя краі апускаюцца ніжэй, а пад снегам ужо бягуць, пазвоньваючы, з гары першыя веснавыя ручайкі. І тады ўсяму жывому здаецца, што гэта гара прывабіла да сябе вясну і цяпер шчодра рассылае ўніз сваіх вестуноў. У такія моманты да гары найбольшая ўвага і павага.

Услед за гарою абуджаецца навакольны лес. Весялей шчабечуць у зусім яшчэ голым лесе вераб'і і сініцы. Па-веснавому гучна трашчаць у чашчобе сарокі. А пад вечар яшчэ і лясныя совы ўчыняць свой меланхалічны пераклік. З надыходам ночы, праўда, усё сціхае.

Але раніцою наваколле абуджаецца. І першыя крокі гэтага абуджэння зноў жа пачынаюцца на той Мядзведжай гары. На ёй раней рассейваецца змрок. Першымі кранаюцца гары промні ранішняга сонца. Першымі хаваюцца начныя зяркі, а на змену ім з'яўляюцца дзённыя, і першыя птушыныя спевы чуюцца адгэтуль.

Хоць мясцовыя жыхары можа і не ведаюць, чаму завецца гара Мядзведжаю, бо мядзведзяў тут даўно ніхто не бачыў. але ж любяць і з павагай ставяцца да яе ўсе ў акрузе: і вяскоўцы, і хутаране. Мядзведжая гара і цяпер застаецца для іх нечым асаблівым. Быццам барометр нейкі ці сімвал добрай надзеі.

**Вячаслаў СТОМА.**

# «НА БЕЛАЙ РУСІ Ў САР'І»

**(Заканчэнне. Пачатак на 5-й стар.).**

і падзёншчыкі, якіх прысылаў І. Лапацінскі, спачатку 12, а потым 16 чалавек. За выкананне ўсіх прац заказчык браў на сябе пісьмовае абавязацельства заплаціць І. Шарамету і тром сялянам-мурншчыкам 750 рублёў срэбрам.

Асноўныя працы былі скончаны ўжо ў 1854 годзе. Аднак губернскія ўлады распачалі супраць памешчыка І. Лапацінскага справу «о постройке каменного костела без разрешения начальства»: царская ўлада забараняла адчыняць новыя прыходскія касцёлы. У маёнтак Сар'я была накіравана камісія для правядзення спецыяльнага «дознания». Ігнацій Лапацінскі пачаў пераконваць членаў камісіі ў тым, што ўзведзенае на яго сродкі збудаванне — ніякі не касцёл, а проста спецыфічнага выгляду помнік побач з магілай яго жонкі, у якім маюць быць размешчаны бюсты памерлых продкаў, фамільны архіў, бібліятэка, лабараторыя на галерэі і розныя старажытнасці. Камісія скрозь пальцы паглядзела на «вредные замыслы» памешчыка і ў афіцыйным рапарце абмежавалася толькі заўвагай аб абмежаванасці яго разумовых здольнасцей. У 1857 годзе Сар'янскі касцёл быў асвячоны ў імя св. Марыі, а ў 1872 перароблены ў праваслаўную Уваскрасенскую царкву.

Заключэнне камісіі аб разумовых здольнасцях І. Лапацінскага не надта і здзіўляе: увогуле чыноўнаму чалавеку цяжка было зразумець страсць гаспадара да будаўніцтва. Да таго ж, бровары, лядоўні, разнастайныя гаспадарчыя пабудовы, нават збудаванні для дваровых птушак — усё гэта ў маёнтках І. Лапацінскага набывала формы гатычнай архітэктуры, На думку гаспадара, такая архітэктура больш адпавядала тутэйшаму клімату і была таннейшая, таму што не патрабавала тынкоўкі, якую амаль штогод трэба было аднаўляць. Чалавек тонкага густу, І. Лапацінскі знаходзіў у будынках гатычнай архітэктуры і эстэтычную асалоду: натуральны колер добра перапаленай цэглы выклікаў у яго настрой меланхалічны і маркотны, навяваў успаміны пра каханую Марысю.

Новае мураванае будаўніцтва, разгорнутае Ігнаціем Лапацінскім у маёнтку Сар'я, патрабавала і новага вырашэння навакольнага пейзажу. Таму была праведзена перапланіроўка прылягаючай да панскага дому тэрыторыі. Маляўнічы ландшафт, рэчышча ракі Сар'янкі, існаваўшы ў маёнтку вялікі фруктовы сад з'явіліся выдатнай натуральнай асновай для стварэння прысядзібнага парку. Ён быў разбіты ў рэгулярна-пейзажным стылі і на левабярэжжы Сар'янкі паступоа пераходзіў у лесапарк. Парадная частка парку была спланавана ў рэгулярным стылі і ўключала ў сябе дзве тэрасы. Як і ў кожным парку эпохі рамантызму, шмат увагі надавалася тут архітэктурна - дэкаратыўнаму аздабленню. На ніжняй тэрасе парку быў зроблены невялікі па памерах штучны насыпны пагорак, на якім размяшчалася альтанка. Пагорак з'яўляўся ўдалай відавой кропкай, з якой адкрывалася перспектыва на сядзібу, касцёл і рэчышча Сар'янкі.

Пейзажная частка парку была сфарміравана на падставе натуральнага ліставога лесу, які акружаў маёнтак. Штучныя пасадкі інтрадуцыраваных парод дрэў і экзотаў спрыялі аздабленню пейзажу. Тут было пракладзена некалькі дарожак і сцяжынак, якія ўтваралі маляўнічы прагулачны маршрут.

На жаль, парк у Сар'і да нашага часу захаваўся ў выглядзе толькі асобных фрагментаў. Амаль поўнасцю знішчаны і ансамбль гаспадарчых пабудоў маёнтка. У былым Сар'янскім касцёле зноў адчынена праваслаўная царква. Тубыльцы яшчэ памятаюць імя Станіслава Лапацінскага, аднак ніхто з іх ужо не распавядзе вам гісторыю яго сям'і. Шкада. Бо повязь часоў непарыўная, і калі яна знікае, мы губляем самых сябе.

**Л. ХМЯЛЬНІЦКАЯ,**
**мастацтвазнаўца.**

*З НАРОДНЫХ ПЕСЕНЬ*

## КАБ У ЛУГУ ДЫ КРЫНІЧАНЬКА




Каб у лугу, каб у лугу,
Ды крынічанька была б у лугу,
Была б у лугу, 2 разы
Ды вадзічанька была б у лугу.
Каб у цябе, каб у цябе
Ды, Марылечка, родны татачка—
Былі б госцікі ды зазваныя,
Былі б у цябе, былі б у цябе
Ды і чарачкі наліваныя.

## СІВЫ КОНЬ




Сівы конь, сівы конь
По расе скача,
Маладая Вольгачка
Па касе плача.

Сівы конь, сівы конь,
Нагарцуешся.
Маладая Вольгачка,
Нагаруешся.

Сівы конь, сівы конь
Вайну чуе.
Маладая Вольгачка
Гора чуе.

## БЕЛАРУСКІЯ КАРЦІНЫ Ў ГРЭЦЫІ

У сталіцы Грэцыі Афінах адкрылася двухтыднёвая выстава твораў двух вядомых беларускіх мастакоў — Мікалая Селешчука і Уладзіміра Савіча. Экспазіцыя наладжана па ініцыятыве супрацоўнікаў афінскай мэрыі. Добра, што лепшыя ўзоры беларускага мастацтва становяцца вядомымі ў краінах, дзе ўмеюць цаніць сапраўдныя мастацкія каштоўнасці.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Тыраж 5 500 экз.
Індэкс 63854. Зак. 1603.
Падпісана да друку 7.09.1992.
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12